1 ліпеня 2016 | № 26 (491)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Трамп можа спатыкнуцца аб канвент стар. 9

**4 БЕЛАРУСКАЯ ЦЫТАДЭЛЬ**

Задача дзяржаўнага тэлебачання — гэта спрашчэнне структуры грамадства, падаўленне разнастайнасці, выцясненне іншых, адрозных ад прапагандаваных тэлебачаннем мадэляў паводзінаў. «Прастата — тая ж дурата», — кажа прымаўка

**6–7 ДЗВЕ ПРАЎДЫ ПРА ТРАСЦЯНЕЦ І ДЗВЕ ТРАГЕДЫІ**



У раёне Трасцянца загінула больш за 500 000 чалавек. Але агалошваць гэтыя звесткі забаранілі члены Дзяржаўнай надзвычайнай камісіі з Масквы. Чаму?

**8 «ПАЧУЦЬ ДАНБАС» ПА-БРЫТАНСКУ**

Нямала тых, хто галасаваў за выхад Брытаніі з ЕС, не толькі не прадбачылі негатыўных наступстваў, але і не верылі, што давядзецца выходзіць



**10 СУДОВЫ ПРАЦЭС ДАЎЖЫНЁЙ У 14 ГАДОЎ**

У 1913 годзе ў сваім маёнтку ў Тэрэзіне пад Варшавай была забіта вядомая ў Расійскай імперыі асоба — кіраўнік Аўтамабільнага таварыства Царства Польскага, князь Уладзіслаў Друцкі-Любецкі

# Бессэнсоўнае бразганне зброяй

## Збіраем грошы хворым дзецям і выкідаем на парад



Сяргей ПУЛЬША

У чарговы раз па Мінску прайшлі танкі. Рэпетыцыя парада адбывалася пры тэмпературы, блізкай да «кропкі плаўлення асфальту». Частка цэнтральнага праспекту пасля гусеніц ваеннай тэхнікі ў чарговы раз ператварылася ў «пральную дошку». Цікава, ці закладаецца адразу ў бюджэт параду рамонт вуліц, па якіх ён праходзіць?

І яшчэ больш цікава: што і каму мы хочам гэтым паказаць? Навошта нам гэтае бразганне зброяй?

Падаецца, Лукашэнка ўжо сказаў усяму свету: наша войска моцнае. На Усебеларускім сходзе ён зазначаў, што ў краіне прынятая новая ваенная дактрына, згодна з якой, сярод іншага, беларускае войска можа адказваць ударам на ўдар нават па тэрыторыі суседніх краін. У нас, маўляў, ёсць для гэтага выдатная зброя — «Паланэзы», якія прайшлі ўсе выпрабаванні, пацвердзілі сваю дакладнасць, пад іх прыцэлам апынаюцца амаль усе сталіцы прылеглых да нас дзяржаў. За выключэннем Масквы, зразумела.

Расійскія СМІ ў засмучэнні і радасці адначасова. Засмучаюцца тым, што доўга вагаліся, прадаваць Беларусі «Іскандэры», ці не. Так доўга, што Беларусь займела ўласны ракетны комплекс, і патрэба ў «Іскандэрах» адпала. Што значыць — Масква ўпусціла шанец зарабіць грошай.

А радуюцца, бо «свае «Паланэзы» беларусы паабяцалі нацэліць на камандныя пункты злучэнняў хуткага рэагавання NATO, польскія, а таксама літоўскія палігоны».

Па-першае, радасць заўчасная: пакуль гэтыя комплексы толькі паступаюць на ўзбраенне, і куды яны будуць нацэленыя, яшчэ пытанне. А па-другое, няўжо яны думаюць, што наша ракетная праграма на гэтым скончылася?

Наступным яе крокам, як лічыць вайсковы аналітык Андрэй Паротнікаў, можа быць стварэнне ў Беларусі ўласных крылатых ракет. На вялікія і здзіўленыя вочы аўтара гэтых радкоў эксперт зазначыў: нічога дзіўнага тут няма. У мінулым годзе Лукашэнка наведваў Пакістан, дзе дамовіўся, сярод іншага, і пра ваенна-тэхнічнае супрацоўніцтва. Не прайшло і трох месяцаў (!), як у Мінску са зваротным візітам быў прэм'ер-міністр Пакістана Наваз Шарыф. Пакістан, як зазначыў Паротнікаў, стварыў свае крылатыя ракеты на базе заходніх прататыпаў і ўкраінскіх рухавікоў. А ўкраінскія рухавікі для крылатых ракет зараз вырабляюцца на Аршанскім авіярамонтным заводзе.

Так што калі пад прыцэлам беларускіх ракет, услед за краінамі Балтыі, Украінай і Польшчай, апынецца Масква — гэта пытанне толькі часу. І не трэба нікому нічога даказваць і псаваць асфальт на галоўных транспартных артэрыях Мінска.

Вайна зараз вядзецца не ракетамі. Ну, прынамсі, не толькі ракетамі.

Гады два таму Лукашэнка зрабіў слушную выснову з крымскіх падзеяў. Чаму Украіна ўпусціла Крым? Таму што яго не баранілі. А чаму яго не баранілі? Таму што не было каму і за што змагацца. Таму што наша паўднёвая суседка загразла



РСЗА «Паланэз» на парадзе ў Мінску ў 2015 годзе

> **Калі Масква апынецца пад прыцэлам беларускіх ракет — пытанне часу**

ў карупцыі, была раздзярбаненая алігархічнымі кланамі, чыноўнікі не звярталі ўвагу на народ, не выконвалі свае абяцанні. І народ вырашыў, што «ў Расіі жыць будзе лепш».

Тады ж Лукашэнка казаў, што, каб ва Украіне была моцная эканоміка, народ бы сам не дапусціў бы ані захопу Крыму, ані падзеяў у Данбасе.

А ці лепшая ў нас сітуацыя за Украіну пачатку 2014-га? Там нават у «дэпрэсіўным» Крыме сярэдні заробак складаў прыкладна 350 долараў. У нас зараз заробак, эквівалентны 200 доларам, лічыцца за шчасце. У нас «кадравы голад» настолькі вялікі, што Лукашэнка вызваляе асуджаных карупцыянераў указамі аб памілаванні — і адразу ж прызначае на кіруючыя пасады. Чыноўнікі больш заклапочаныя тым, каб спадабацца «праўдыру», а стваральнікаў патрыятычных сайтаў садзяць у турмы.

Згодна апытанню НІСЭПД, 87,8% беларусаў прызнаюць наяўнасць крызісу ў сінявокай. 69,7% не лічаць, што іх меркаванне ўплывае на прыняцце рашэнняў (гэта да таго, як чыноўнікі «чуюць» народ). І толькі 28,5% апытаных ва ўзросце 18–29 гадоў заявілі, што не хацелі б з'ехаць з краіны. То бок 70% моладзі, каб была магчымасць, пакінулі б радзіму без ваганняў.

Хто будзе бараніць такую краіну ў выпадку агрэсіі? У самым прымітыўным выпадку: ці будзе каму кіраваць тымі «Паланэзамі» ў час ваенных дзеянняў? Ці нашы войскі тэрытарыяльнай абароны, як той герой анекдоту, на пытанне, куды пісаць, адкажуць: «Мама, пішыце адразу ў палон»?

Каб народ бараніў радзіму, трэба, каб было што бараніць. Але адказ на гэтае пытанне не даў нават Усебеларускі сход, які шмат у каго выклікаў аналогіі са з'ездамі КПСС часоў застою. На сходзе маляваліся далягляды цудоўнай будучыні, але так і не было сказана, калі і якім чынам мы гэтай будучыні дасягнём. Не было нічога, апроч лозунгаў «палепшыць, паглыбіць, пашырыць».

На «з'езд КПСС» краіна змарнавала каля 2 мільёнаў долараў. Прыкладна ў мільён абыдзецца парад. А яшчэ прыкладна мільён долараў каштуе 1 кіламетр якаснай дарогі. І гэта ў той час, калі людзі па капейчыне збіраюць грошы хворым дзецям на аперацыі ці на лекі.

Няўжо мы такія багатыя?

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Пікет супраць прымусу да галасавання

**Грамадскі актывіст Рыгор Грык падаў заяўку ў Баранавіцкі гарвыканкам на правядзенне пікета 16 ліпеня.**

«Мэта пікету — прыцягнуць увагу жыхароў горада да таго, што прымус да галасавання незаконны. У адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларусі, выбары з'яўляюцца свабоднымі і выбаршчык сам вырашае, удзельнічаць яму ў выбарах ці не», — патлумачыў Рыгор Грык.

На думку актывіста, сёння ў краіне свабодных выбараў няма, і ён не бачыць сэнсу ўдзельнічаць у маючых адбыцца парламенцкіх выбарах. Асабліва гэта тычыцца ўдзелу ў выбарах апазіцыі. Варта памятаць, што людзі, якія будуць браць удзел у выбарах ад апазіцыі (збор подпісаў, назіранне), рызыкуюць застацца без працы. Хто тады ім дапаможа?»

Па словах Рыгора Грыка, жыхарам горада варта ведаць, што ніхто не мае права прымусіць людзей ісці на выбары.

**intex-press.by**

### МАГІЛЁЎ. На галоўных плошчах подпісы не збіраць

**Магілёўскі гарвыканкам апублікаваў рашэнне, згодна з якім забаронена праводзіць пікетаванні дзеля збору подпісаў у шматлікіх людных месцах у абласным цэнтры.**

Збор подпісаў забаронены на плошчах Леніна і Славы (былой Савецкай), падземных пешаходных пераходах, аўтавакзале, аб'ектах чыгуначнага транспарту. Не дазволена збіраць подпісы на адлегласці менш за 50 метраў ад будынкаў мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, судоў, органаў пракуратуры, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абароназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва.

Пад забарону для пікетаў трапілі таксама тэрыторыі ўстаноў адукацыі, аховы здароўя, культуры, фізічнай культуры і спорту, сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Парушэннем закона будзе лічыцца збор подпісаў на адлегласці менш за 50 метраў ад арганізацый з колькасцю працуючых звыш 300 чалавек; на адлегласці менш за 200 метраў ад будынкаў, дзе знаходзяцца арганізацыі, на якія ўскладзены функцыі рэдакцый тэлевізійных і радыёвяшчальных СМІ.

У рашэнні не ўказваецца, якія арганізацыі забяспечваюць жыццядзейнасць насельніцтва, і ці ўваходзяць у іх пералік, напрыклад, аб'екты гандлю харчовымі таварамі, у якія, звычайна,назіраецца найбольшы людскі паток

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

### ГОМЕЛЬ. Журналіста не толькі збілі, але і на яго склалі два пратаколы

**Журналісту-фрылансеру Кастусю Жукоўскаму 28 чэрвеня патэлефанавалі невядомыя, якія прадставіліся супрацоўнікамі міліцыі, а менавіта Лоеўскага РАУС, і запрасілі ў аддзел для складання на яго адміністрацыйных пратаколаў.**

Па словах фрылансера, яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве (артыкул 17.1 КаАП) і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (артыкул 23.4 КаАП). Кастусь Жукоўскі адмовіўся ехаць у Лоеўскі РАУС.

Мінулы раз, пры наведванні райцэнтру, ён займеў шмат праблем з міліцыяй. Нагадаем, 21 чэрвеня фрылансер з калегам Аляксеем Атрошчанкавым наведалі Лоеў па просьбе мясцовых жыхароў, каб зняць відэа пра эканамічныя праблемы райцэнтру. У часе здымак іх спачатку спынілі супрацоўнікі ДАІ, а затым з прымяненнем сілы затрымала мясцовая міліцыя.

«З нас здзекаваліся, выкручвалі рукі, клалі на падлогу, адзелі кайданкі, адзін міліцыянер ставіў мне нагу на галаву, калі я ляжаў скручаны на падлозе, зневажалі нас», — адзначыў Кастусь Жукоўскі.

Ён з калегам знялі пабоі і напісалі скаргу ў Следчы камітэт на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі.

Тым часам міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч у Мінску пракаментаваў для «Еўрарадыё» дадзенае пытанне так: «Любая інфармацыя аб супрацьпраўных дзеяннях нашых супрацоўнікаў будзе праверана. У тым ліку і па гэтым выпадку. Мы ні адно такое паведамленне не пакідаем без увагі. У тым ліку дадзім ацэнку гэтым фактам. Наступалі на галаву, не наступалі... Ведаеце, на мой погляд, не было ніякіх прычын супрацоўнікам органаў унутраных спраў так дзейнічаць. Я вельмі спадзяюся, што так яно і было».

Як бачым, рэакцыя ёсць: два пратаколы на Кастуся Жукоўскага. Якія меры прынятыя да міліцыянераў, і ці наогул будуць яны прынятыя, — невядома.

**spring96.org**

# «Беларускія прадпрымальнікі могуць выканаць ролю шахцёраў Данбаса»

Сяргей ПУЛЬША

**Умоўны «мараторый на праверкі ІП» заканчваецца 1 ліпеня. Алесь Макаеў бачыць у гэтым палітычную памылку ўлады.**

На прэс-канферэнцыі, прысвечанай вынікам з'езду Руху салідарнасці «Разам», Макаеў даволі шмат казаў пра сённяшняе становішча ІП у краіне. І не дзіва, бо РСР гэтаму прысвяціла нават асобную рэзалюцыю. Яна называецца даволі катэгарычна: «Аб небяспецы для беларускай дзяржаўнасці стаўлення сённяшняга рэжыму да прадпрымальніцкай дзейнасці».

Зразумела, у дакуменце паведамляецца, што ў сённяшняй улады стаўленне да іпэшнікаў ніколі не было добрым. Узгадалі ў РСР і розныя словы кіраўніка дзяржавы на адрас прадпрымальнікаў, асабліва «вашывыя блохі», якімі Лукашэнка ахрысціў ІП аж у 1995 годзе. А ў апошнія часы ўлады і зусім «цалкам выціснулі дзейнасць прадпрымальнікаў па-за прававое поле і зрабілі іх становішча безвыходным».

«Сацыяльная напружанасць, якая ствараецца праз дыскрымінацыю вялікай групы беларускіх грамадзянаў, непатрэбная нікому ў Беларусі і выглядае як частка магчымага плану Крамля ды Лубянкі па дэстабілізацыі ўнутранай сітуацыі ў краіне і спробай знішчэння беларускай дзяржаўнасці. Дзеянні маскоўскай агентуры ва Украіне, якія папярэднічалі анексіі Крыма і вайне Расіі на Данбасе, паказваюць рэальнасць такой небяспекі для Беларусі», — напісана ў рэзалюцыі.

Макаеў лічыць, што вялікая частка прадпрымальнікаў, якую ўлада заціснула па самае «не магу», цалкам можа стаць «аб'ектам распрацоўкі» знешняга ворага. Сапраўды, у Данбасе ў свой час усе казалі, што «ў Расіі ім будзе лепш». З улікам таго, што частка «памежных» з Расіяй ІП ужо перавяла ў суседнюю краіну свой бізнес і няблага сябе там пачувае, незадаволеныя індывідуальныя прадпрымальнікі як сацыяльная група могуць стаць апорай для магчымых «зялёных чалавечкаў».

Макаеў бачыць яшчэ адно падабенства беларускіх ІП з данецкімі шахцёрамі: «На беларускіх рынках прэвалюе апатыя, спажывецкія настроі, жаданні, каб інтарэсы прадпрымальнікаў абаранялі нехта іншы, а не яны самі. Нагадаю, што і шахцёры Данбасу ўвесь час шчыра лічылі, што ім усе вінныя. Пасля ўвесь свет пабачыў, хто гэта выкарыстаў і да чаго гэта прывяло».

Ён таксама нагадаў пра інфармацыю, агучаную былым паслом Украіны ў Беларусі Раманам Бяссмертным, пра магчымасць «данецкага сцэнару» ў Віцебскай і Гомельскай абласцях.

У выніку Рух салідарнасці «Разам» патрабуе ад уладаў таго ж, чаго патрабуюць усе прадпрымальніцкія саюзы і ініцыятывы: скасаваць указы кіраўніка дзяржавы №48 і №222, якія ставяць іпэшнікаў у невыноснае становішча, прыняць з удзелам прадпрымальнікаў закон аб малым бізнесе, і аднавіць рэгулярную працу пепрамоўнай групы пры Міністэрстве эканомікі для вырашэння надзённых праблем прадпрымальнікаў. Але патрабуюць яны гэтага не проста так, а «ў сувязі з небяспекай для беларускай дзяржаўнасці».

Пакуль жа, сказаў Макаеў, ідзе праца па стварэнні прафсаюза прадпрымальнікаў «Салідарнасць». А таксама збор 50.000 подпісаў прадпрымальнікаў наконт скасавання тых жа ўказаў №48 і №222. 50 тысяч подпісаў — гэта права для звароту ў Канстытуцыйны суд і ў парламент з заканадаўчай ініцыятывай. Акрамя таго, з гэтымі подпісамі можна звярнуцца ў такі міжнародны орган, як Венецыянская камісія, якая аналізуе законы і законапраекты на адпаведнасць іх дэмакратычным нормам. Варта зазначыць, што Беларусь з'яўляецца асацыяваным сябрам гэтай камісіі, і таму яе рашэнні могуць быць прынятыя пад увагу.

# Хто нажываецца на вяскоўцах?

Зінаіда ЦІМОШАК

**Аўталаўкі для шматлікіх вёсак — сапраўдная падзея ў аднастайным жыцці. Але часцяком сяляне застаюцца незадаволеныя адсутнасцю выбару тавараў, высокімі коштамі і нізкай якасцю прадуктаў.**

Зменшэнне колькасці насельніцтва ў вёсках аўтаматычна пацягнула за сабой закрыццё вясковых прадуктовых крамаў. Стандарты прадугледжваюць наяўнасць дзяржаўнай крамы толькі ў населеных пунктах з колькасцю жыхароў больш за 200 чалавек. У сувязі з нізкім узроўнем жыцця, адсутнасцю грамадскага і асабістага транспарту, для многіх вясковых пенсіянераў аўталаўкі — адзіная магчымасць набыць неабходныя прадукты.



Па слядах аўталаўкі я праехала па некалькіх маланаселеных вёсках Капыльскага раёна і наведала Рыматаўшчыну, Балгавічы, Аксаміты. Паўсюль вяскоўцы выказвалі адны і тыя ж прэтэнзіі: высокія кошты, вузкі асартымент і адсутнасць выбару.

«Кошты ў аўталаўцы растуць кожны месяц больш, чым на тры тысячы, — уздыхае жыхарка вёскі Рыматаўшчына Валянціна Савельева, жанчына сярэдніх гадоў, інвалід. — Здзіўляе, што нам прывозяць нейкія вельмі дарагія прадукты. Сланечнікавы алей каштуе больш за 29 000, а ў Слуцку, кажуць, можна купіць і за 20 000. Дарэчы, наконт цэнаў — мы нават не ведаем, наколькі яны высокія, бо купляем па тых, якія нам прапаноўваюць. Няма дзе параўнаць».

Спадарыні Валянціне не падабаецца, што іх аўталаўка абслугоўвае ажно 11 вёсак, а халадзільная ўстаноўка вельмі нізкай магутнасці: «Нярэдка бывае, што на апошнюю вёску ўжо не хапае прадуктаў, а марозіва альбо няма, альбо растапілася».

На тэрмін прыдатнасці бабулькі звычайна нават не звяртаюць увагі. Праблему пачынаюць вывучаць толькі тады, калі ўжо штосьці расстроіць страўнік.

Ніна Мікалаеўна Коршук, былая гараджанка, жыве ў вёсцы Балгавічы ўжо шмат гадоў. На працягу апошніх 6 месяцаў купляе ў рухомай краме толькі соль і запалкі. «Дзякуючы таму, што у нас ёсць аўтамабіль, перастала купляць у аўталаўцы прадукты, бо яны былі нясвежымі. Магчыма, па прычыне слабых халадзільнікаў, магчыма — па іншай прычыне. Асабліва праблемным было малако: не паспееш прынесці яго дамоў, як яно ўжо скісла. Кілбаса таксама не аднойчы прымушала адмыслова прынюхвацца, — кажа яна. — Дый кошты часта «кусаюцца». Нейкія занадта высокія нацэнкі на ўсе прадукты. Мусіць, кіраўнікі райпо лічаць, што на сяле жывуць сапраўдныя мільянеры».

Старшыня Капыльскага райпо Наталля Канончык патлумачыла, што ніякіх адмысловых нацэнак на кошты мясцовыя гандлёвыя арганізацыі не ствараюць. «Чаму высокія кошты на прадукты? Гэта не ад нас залежыць, бо кошты мы не самі прыдумляем. Прадукты паступаюць у раённую гандлёвую сетку з дзяржаўнай рэспубліканскай базы. Камерцыйным крамам прасцей — яны могуць браць тавар там, дзе больш танна».

Мусіць, з гэтай прычыны ў апошні прывоз кілаграм грэчкі для сялян каштаваў ужо 31 000, у той час як у слуцкіх крамах яе можна было б набыць і за 20 000 тысяч беларускіх рублёў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Нагоды для аптымізму

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мы тут пішам пра эканоміку, палітыку, глабальныя праблемы і гэтак далей. А краіна, насамрэч, жыве зусім іншым. Людзі глядзяць матчы Чэмпіянату Еўропы па футболе і рыхтуюцца да больш маштабнага відовішча — Алімпіяды ў Рыа.**


Фота www.gapp.az

Але нам не трэба чакаць асаблівых спартовых дасягненняў на Алімпіядзе. Частка нашых спартоўцаў увогуле можа не прыняць у ёй удзел. Як стала вядома, пасля пераправеркі проб, узятых ва ўдзельнікаў летніх Алімпійскіх гульняў–2012 у Лондане, ва ўжыванні допінгу былі абвінавачаныя беларускія цяжкаатлеты Марына Шкерманкова, Дзіна Сазанавец і Яўген Жарнасек. Пры наяўнасці трох і больш спартсменаў, якія трапіліся на допінгу, федэрацыя на год можа быць адхіленая ад спаборніцтваў.

Апроч таго, вельмі цікавая ў нас сітуацыя з развіццём спорту. Як паведаміў дырэктар Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра спорту Генадзь Загародны, структура дагэтуль не мае свайго памяшкання. Цэнтр, які складаецца з двух будынкаў на скрыжаванні вуліц Нарачанскай і Ціміразева ў Мінску, планавалі здаць у эксплуатацыю да 1 студзеня 2016 года. Чатырохпавярховы будынак гатовы на 90%, сяміпавярховы — на 25%. Намеснік прэм'ер-міністра Наталля Качанава яшчэ 3 лютага заявіла на калегіі Мінспорту, што працягваць будаўніцтва для РНПЦ спорту «няма эканамічнай магчымасці».

27 чэрвеня Лукашэнка правёў нараду аб падрыхтоўцы спартсменаў да Алімпійскіх гульняў. «Магчыма, сітуацыя атрымае іншы характар. Добрыя вынікі спартсменаў ускосным чынам дазволяць дабудаваць іх», — адзначыў Загародны.

Дзіўная краіна, дзіўныя рашэнні. Мне адразу ўзгадалася сітуацыя ў нямецкім футболе ў 1970-х гадах, калі Германія страціла лідарства. Тады нямецкі ўрад пачаў выдаткоўваць грошы на развіццё футбола, асабліва масавага, і немцы вярнуліся на вышэйшыя прыступкі ў гэтым спорце. То бок, калі паказчыкі на Алімпіядзе кепскія, трэба развіваць масавы спорт, будаваць аб'екты, ствараць умовы для развіцця новых талентаў і вырошчваць новых чэмпіёнаў. У нас жа наадварот: калі паказчыкі добрыя — дамо дазвол на будову, а калі кепскія — не дамо. Хай так кепскімі і застаюцца — з-за адсутнасці інфраструктуры.

У чарговы раз парадавала Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Грунтуючыся на дадзеных афіцыйнай статыстыкі, яно канстатавала зніжэнне каэфіцыента напружанасці на рынку працы. Гэты каэфіцыент — адносіны колькасці зарэгістраваных беспрацоўных да колькасці вакансій — знізіўся з 1,7 беспрацоўнага на адну вакансію на 1 чэрвеня 2015-га да 1,5 — на 1 чэрвеня гэтага года. Пры гэтым попыт на працоўную сілу ў студзені-маі ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года вырас, адзначаюць у міністэрстве. «На канец мая 2016 года ў органы па працы, занятасці і сацыяльнай абароне паступілі звесткі аб наяўнасці 34,8 тысячы вакансій, што склала 134,5% да ўзроўню 2015 года», — гаворыцца ў аглядзе сітуацыі на рынку працы, які падрыхтавала Мінпрацы.

Паводле дадзеных міністэрства, колькасць асоб, якія рэгіструюцца ў якасці беспрацоўных, у параўнанні з мінулым годам зменшылася.

На месцы Мінпрацы я б не быў такім аптымістам. З-за чаго ўзнікла «хваля беспрацоўных» у мінулым годзе? Ды з-за таго, што людзі былі напалоханыя «падаткам на дармаедства», і шмат хто вырашыў пазбавіцца гэтай праблемы шляхам рэгістрацыі ў якасці беспрацоўнага. Па меркаванні старшага даследчыка Цэнтра сацыяльна-эканамічных даследаванняў (CASE-Беларусь) Уладзіміра Валеткі, да 90% росту беспрацоўя ў мінулым годзе было выклікана менавіта з'яўленнем дэкрэту пра дармаедства.

Зараз «дармаеды» спынілі сваю рэгістрацыю ў цэнтрах занятасці. За 10 месяцаў — са жніўня мінулага года па май гэтага — пра свае дармаедства заявілі толькі 3818 беларусаў. Хаця чыноўнікі абяцалі нам не менш за 400 тысяч «дармаедаў».

Да таго ж — лета, час адпачынкаў. Працаздольныя на месца сыходзячых на вакацыі сталых супрацоўнікаў бяруць людзей папрацаваць «часова». Акрамя таго, «новыя беспрацоўныя» лічаць за лепшае не шукаць працу зараз, а з'ехаць на лецішча, палоць гароды. Бо тады яны ўзімку гарантавана будуць з агуркамі і бульбай, а тут невядома яшчэ, падвернецца ім за лета праца альбо не. Заканамерна вырастае попыт сельскагаспадарчых арганізацый на сезонную працу па зборы ягад, яблыкаў і іншых дарункаў прыроды. Таму і прапанова на рынку працы расце. Як сезон скончыцца, усё будзе не так аптымістычна, як піша зараз Мінэканомікі.

Другая добрая навіна ад Мінпрацы: яно ўрэшце вырашыла разабрацца, чаму дапамога па беспрацоўі складае недзе каля 13 долараў у эквіваленце (у маі 2016 года — 265,6 тысячы рублёў па афіцыйных звестках). Паводле начальніка ўпраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Алега Такуна, для асобных катэгорый беспрацоўных плануецца павысіць дапамогу да памеру 100% бюджэту пражытачнага мінімуму (на сёння ў сярэднім 1 699 430 рублёў). Ужо рыхтуецца адпаведны праект нарматыўна-прававога акта. Грошы атрымаюць тыя, хто страціў працу ў выніку вызвалення, скарачэння колькасці штата работнікаў, ліквідацыі прадпрыемства.

У перспектыве плануецца ўкараніць сістэму страхавання па беспрацоўі, і ў наступным годзе нам абяцаюць распрацаваць і ўнесці ва ўрад нарматыўна-прававы акт аб гэтай страхоўцы. Застрахаваны, мяркуецца, пры страце працы па незалежных ад яго прычынах будзе атрымліваць дапамогу ў памеры да 70% ад страчанага заробку, паведаміў Такун.

Праўда, нам не кажуць, што ў такім выпадку будзе з фондам сацыяльнай абароны насельніцтва. Зараз мы плацім у яго 35% заробку (1% непасрэдна працоўны і 34% — наймальнік), і гэты фонд павінен нам забяспечыць не толькі пенсіі, але і дапамогу па беспрацоўі. Ці знізіцца гэты паказчык (а значыць, мы больш будзем атрымліваць грошай), альбо «страхоўка ад беспрацоўя» стане яшчэ адным дадатковым падаткам?

Усё ж ёсць нагоды для аптымізму. Галоўнае, каб рабілася ўсё па розуме, а не так, як заўсёды.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Янка Запруднік



**Вядомы дзеяч беларускай эміграцыі Янка Запруднік (Сяргей Вільчыцкі) разам з жонкай прыехаў у Беларусь.**

Наведванне радзімы асобай такога маштабу — заўсёды падзея. А калі гэта сумяшчаецца яшчэ і з прэзентацыяй незвычайнай біяграфічнай кнігі — падзея ўдвая.

Кніга «Кантакты» складзена на аснове лістоў, якія на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў адпраўлялі беларусы ў Нью-Ёрк Янку Запрудніку. Складальнікамі кнігі з'яўляюцца Наталля Гардзіенка і Лявон Юрэвіч.

Актавая зала бібліятэкі, дзе праходзіла прэзентацыя, была перапоўненая. Прыйшлося нават прынесці дадатковыя крэслы з чытальных залаў і калідораў.

Сам Запруднік быў нешматслоўны, дзякаваў за віншаванні, а таксама падзяліўся ўражаннямі ад наведвання Беларусі. «У апошні час шмат кажуць пра дзве душы беларуса, ці пра яе дваістасці. Я, прыехаўшы сюды праз тры гады, пачаў думаць. Душа беларуса мае два аспекты. Адзін — пакутніцкі, другі — надзейны. Пакутніцкая душа, прыехаўшы сюды, адчувае боль, таму што яна не чуе музыкі беларускай мовы з вуснаў малых дзетак. Але душа адпорная на цяжкасці, ёсць аспект надзеі ў ёй, і ён трымае нас пры працы, пры намаганнях, пры надзеі, што гэтыя намаганні недарэмныя».

«І вось гэтае адчуванне быць «часткай Айчыны» трымае нас пры працы, пры намаганнях, пры ўпэўненасці, што праца наша не дарэмная, не марная, яна прынясе плады», — рэзюмаваў ён.

Афіцыйна прэзентацыю меркавалі скончыць у 20.00, але потым больш за гадзіну госці прэзентацыі стаялі ў чарзе за аўтографам.

## Анатоль Шумчанка



**Лідар аб'яднання прадпрымальнікаў «Перспектыва» дамогся адмены штрафу за ўдзел у дазволеным Дні Волі ў Мінску.**

Штраф у 30 базавых велічынь (6 мільёнаў 300 тысяч рублёў) Шумчанка атрымаў у сваю адсутнасць. «25 мая я дастаю з паштовай скрыні канверт, у якім бачу запрашэнне на 24 мая на судовае пасяджэнне. А паштовая адзнака на канверце — 23 мая. У пастанове суда потым было напісана, што я быў належным чынам праінфармаваны пра пасяджэнне. Я ні пад распіску, ні паведамленнем, ні кур'ерам гэтага не атрымліваў. Затое канверт аб тым, што мне далі штраф, мне прынеслі як належыць, кур'ерам і з распіскай», — распавёў Шумчанка.

З-за гэтых працэдурных парушэнняў суддзя Мінскага гарадскога суда Валерый Камісараў адмяніў пастанову суда Савецкага раёна аб прыцягненні Анатоля Шумчанкі да адміністрацыйнай адказнасці. Матэрыялы накіраваны на новы разгляд іншым складам суда першай інстанцыі.

## Сямён Шапіра



**Старшыня Мінскага аблвыканкама першым пачаў выконваць рашэнні Усебеларускага сходу.**

Як паведаміў Шапіра праз праграму «Контуры» на тэлеканале ОНТ, у Мінаблвыканкаме плануецца скараціць прыблізна 100 чалавек.

Там працуюць 493 чалавекі. «Мы сабралі актыў. Не толькі вертыкаль улады, мы запрасілі кіраўнікоў прадпрыемстваў, сельскіх выканкамаў, бібліятэк, дамоў культуры — усёй сацыяльнай сферы. І выпрацавалі прапанову: знайсці магчымым у раённых выканаўчых камітэтах скараціць людзей на 10%», — адзначыў Шапіра. Паводле яго слоў, скарачаць плануецца не прафесіяналаў, а абслуговы і дапаможны персанал.

Шапіра ўскосна ўзгадаў і парадаксальныя законы Паркінсона. «Навукоўцы падлічылі, што пры пэўнай залішняй колькасці самой сістэмы кіравання яна пачынае працаваць сама на сябе. Людзі пішуць паперы, справаздачы», — сказаў ён.

Згодна тым жа законам Паркінсона, ідэальная колькасць кіраўнічага органа — пяць чалавек. «Каэфіцыент бескарыснасці» (калі камітэт фактычна не працуе, а імітуе занятасць) — палягае «паміж 19,9 і 22,4 (дзясятыя долі паказваюць частковую прысутнасць, то бок тых, хто пасядзеў і сышоў)». Прастора для працы ў Шапіры яшчэ вялікая.

а | Азбука паліталогіі

# Беларуская цытадэль

**Альтэрнатывай эвалюцыі ў сучасных умовах з'яўляецца не рэвалюцыя, а бессэнсоўны і бязлітасны бунт.**



Сяргей НІКАЛЮК

Сацыёлаг Лявада-Цэнтра Барыс Дубін яшчэ ў 2006 годзе напісаў, што задача дзяржаўнага тэлебачання — гэта спрашчэнне структуры грамадства, падаўленне разнастайнасці, высцясненне іншых, адрозных ад прапагандаваных тэлебачаннем мадэляў паводзінаў і грамадска-палітычнай думкі.

«Прастата — тая ж дурата», — кажа прымаўка. Прасцяк — гэта чалавек, які не ўсведамляе свае жыццёвыя інтарэсы і каштоўнасці. Такім чынам, яму можна навязаць чужыя. Напрыклад, інтарэсы і каштоўнасці ўлады.

На прастаце як на падмурку стаіць так званая беларуская мадэль. «Усё ў простым, — растлумачыў дэлегатам Пятага Усебеларускага народнага сходу (5УНС) адзіны палітык (АП). — Інавацыі, IT-тэхналогіі, прыватызацыя і іншае, усё гэта зразумела, мы ўжо гэта асвоілі. Але ўсё, і наша жыццё таксама, у простым — трэба распранацца і працаваць да сёмага поту!»

Як тут ні прыгадаць тэзу прапаршчыка з савецкага анекдота: «Чаго тут думаць, трэсці трэба!» Свет на парозе чацвёртай тэхналагічнай рэвалюцыі, а беларусам прапануецца сустрэць яе голымі і потнымі. На думку АП, так будзе прасцей сканцэнтравацца на ключавых прыярытэтах — інвестыцыях, занятасці, экспарце, інфарматызацыі і моладзі.

Просты чалавек тэксты дакладаў на Усебеларускім народным сходзе з алоўкам у руках не вывучае, а на слых нават спецыялісту не так проста адчуць нюансы. Звернемся, напрыклад, да разваг АП аб інвестыцыях. Асноўная навацыя інвестыцыйнай палітыкі будзе палягаць... у сумленным і адкрытым ільготным крэдытаванні ўсіх новых праектаў і праграм.

Але калі гэта так, няўжо ўсе папярэднія пяцігодкі льготнае крэдытаванне ажыццяўлялася несумленна? Ці варта пасля гэтага здзіўляцца шматмільярдным стратам як адзінаму выніку інвестыцыйнай дзейнасці чыноўнікаў.

Падобным чынам і выбудаваная «праграма развіцця, а не застою; праграма будучыні, а не мінуўшчыны; праграма дзеянняў, а не чаканняў».

Прыклад. Важным напрамкам рэгіянальнага развіцця стане стварэнне навукова-тэхналагічных паркаў у якасці пляцовак для арганізацыі вытворчасцей, заснаваных на тэхналогіях V і VI тэхналагічных укладаў.

Прадэкларараваўшы такую амбітную задачу, АП пералічыў асноўныя рэгіянальныя аб'екты будучых капітальных укладанняў. У Брэсцкай вобласці — гэта горна-абагачальны камбінат на базе радовішча «Сітніцкае» і лесапільная вытворчасць у «Івацэвічдрэве»; у Віцебскай вобласці — рэканструкцыя «Нафтана» і Аршанскага льнокамбіната. Прыкладна такі ж узровень «пляцовак» для арганізацыі высокатэхналагічных вытворчасцяў і ў астатніх абласцях.

Жанр «Азбукі паліталогіі» прымушае мяне звярнуцца па дапамогу да Вікіпедыі. V тэхналагічны ўклад абапіраецца на дасягненні ў галіне мікраэлектронікі, інфарматыкі, біятэхналогіі, геннай інжынерыі, новых відаў энергіі, матэрыялаў, асваення касмічнай прасторы, спадарожнікавай сувязі. У аснове VI тэхналагічнага ўкладу ляжыць канвергенцыя нана-, бія-, інфа- і кагнітыўных тэхналогій.




Прызнаюся, зразумець, якім чынам камбінацыя вышэйпералічаных тэхналогій ужо ў бліжэйшыя пяць гадоў будзе ўкаранёная на Аршанскім ільнокамбінаце, я не здольны. Але гэта выключна мая праблема. Магчыма, таму ў мяне і не было нават найменшага шанцу апынуцца сярод дэлегатаў 5УНС.

## Малако без каровы

Далейшы аналіз 5УНС немагчымы без тэарэтычнага адступлення.

Усе сістэмы праўлення дзеляцца на два тыпы: прадстаўнічыя (дэмакратычныя) і аўтакратычныя. Што тычыцца гібрыдных сістэм, дык аднясенне іх да трэцяга тыпу я лічу неправамерным, бо дэмакратычныя інстытуты яны выкарыстоўваюць у якасці шырмы для прыкрыцця свайго аўтакратычнага зместу, і не больш за тое.

У аснове першага тыпу праўлення ляжаць дагаворныя адносіны паміж дзяржавай і грамадзянамі, у аснове другога — адносіны самадзяржац-падданыя.

5УНС быў створаны ў адпаведнасці з артыкулам 37 Канстытуцыі РБ (указ №164 ад 3 мая 2016 г.). Гэты артыкул прадугледжвае права грамадзян удзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў як непасрэдна, так і праз свабодна выбраных прадстаўнікоў. Непасрэдны ўдзел «забяспечваецца правядзеннем рэферэндумаў, абмеркаваннем праектаў законаў і пытанняў рэспубліканскага і мясцовага значэння».

Спасылку на закон мы знаходзім і ў дакладзе АП: «Разам мы павінны прыняць рашэнне па самых важных пытаннях развіцця беларускай дзяржавы і грамадства. Такое права нам дадзенае законам аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах».

Адкрываем закон. У адпаведнасці з артыкулам 6, удзельнікі сходаў маюць права абмяркоўваць, уносіць прапановы, прымаць рашэнні і звяртацца з прапановамі ў дзяржаўныя органы. Пры гэтым «зварот рэспубліканскіх і мясцовых сходаў разглядаецца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў».

А цяпер адкрыем рэзалюцыю 5УНС, прынятую аднагалосна 23 чэрвеня. У пункце 3 чытаем: «Даручыць дзяржаўным органам...»

На мове АП гэта называецца «прамым народаўладдзем». І не важна, што такога ўзроўню «шчырасці» Канстытуцыя не прадугледжвае. Але якое дачыненне гэта мае да жадання дэлегатаў 5УНС «па прыярытэтных для краіны напрамках <...> праз дзесяць гадоў увайсці ў лік краін-лідараў»?

Адказаць на гэта пытанне я паспрабую з дапамогай удзельніка эканамічнага форуму ў Пецярбургу амерыканскага гісторыка навукі Ларэна Грэхема.

Для пачатку варта правесці мяжу паміж вынаходніцтвам і інавацыяй. Вынаходніцтва — рашэнне тэхнічнай задачы. Інавацыя — стварэнне камерцыйна паспяховага прадукту на аснове вынаходніцтва. Краіны, няздольныя да інавацый, не змогуць знайсці свайго месца ў чацвёртай тэхналагічнай рэвалюцыі. Расія, на думку Грэхэмам, — адна з такіх краін. Таму не варта здзіўляцца, што Швейцарыя з насельніцтвам 7,5 мільёна чалавек экспартуе ў год у 4 разы больш высокатэхналагічных прадуктаў, чым Расія.

Усе кіраўнікі Расіі — з часоў царызму да нашых дзён — разумелі пад мадэрнізацыяй закупку і асваенне тэхналогій, у той час як ключ да поспеху варта шукаць у культуры. Яе асноўныя элементы — гэта дэмакратычная форма праўлення, свабодны рынак, абарона інтэлектуальнай уласнасці, кантроль над карупцыяй, прававая сістэма, дзе абвінавачваны мае шанец апраўдацца і даказаць сваю невінаватасць.

Аддзяленне тэхналогіі ад палітыкі нідзе і ніколі не прыводзіла да ўстойлівага поспеху. Можна ўкладваць мільярды ў стварэнне мясцовых клонаў Сіліконавай даліны, але калі пры гэтым забараняюцца дэманстрацыі, а незалежныя прадпрымальнікі разглядаюцца ў якасці апанентаў улады, то разлічваць на далучэнне да краін-лідараў не даводзіцца.

Надзея на аддачу ад мадэрнізацыі па-за палітыкай нагадвае спробу атрымаць малако без каровы. Там, дзе Канстытуцыя выкарыстоўваецца толькі ў якасці шырмы для прыкрыцця аднаасобнага праўлення, разлічваць на развіццё не варта.

## Без права на карэкціроўку

Палітыка — механізм прымусу эліты да адказнасці. Сам факт наяўнасці ў Беларусі адзінага палітыка азначае безадказнасць тых, хто надзелены правам прымаць рашэнні. Абмяжуюся адным прыкладам. «Галоўная мэта — рост дабрабыту і паляпшэнне ўмоў жыцця насельніцтва на аснове ўдасканалення сацыяльна-эканамічных адносін, інавацыйнага развіцця і павышэння канкурэнтаздольнасці нацыянальнай эканомікі». Гэтую выдатную цытату я запазычыў з рэзалюцыі 4УНС.

Прайшло пяць гадоў. 2,5 тысячы дэлегатаў, якія «канкрэтнымі справамі заслужылі аўтарытэт сярод грамадзян», абмяркоўваюць Асноўныя палажэнні праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця РБ на 2016–2020 гады. Дакумент адкрываецца раздзелам «Вынікі пяцігодкі. Нашы дасягненні». Прыводжу першы абзац: «Галоўны вынік чацвёртай пяцігодкі (2011–2015 гады) — захаванне палітычнай стабільнасці, устойлівасці эканомікі і сацыяльнай абароны насельніцтва».

Прыведзены мною абзац з Асноўнага палажэння паспяхова перавандраваў у Рэзалюцыю 5УНС. Планавалі рост дабрабыту і паляпшэнне ўмоў жыцця насельніцтва, а зрабілі справаздачу за стабільнасць і ўстойлівасць. Гэтакі погляд на Беларусь як на Ваньку-ўстаньку. Яе спрабуюць нахіліць і з Захаду, і з Усходу, а яна застаецца стабільнай і ўстойлівай, і пры гэтым умудраецца імкліва паляпшаць індэкс чалавечага развіцця: з 68-га месца ў 2000 годзе перасунуцца на 50-е ў 2015-м.

Аднак у спісе краін па ВУП па парытэце пакупніцкай здольнасці на душу насельніцтва Беларусь па выніках 2015 года апынулася на 66-м месцы. Разыходжанне з індэксам чалавечага развіцця склала 16 адзінак. Не ў каня атрымаўся корм. Адукаваных людзей — лішак, а з інавацыямі суцэльныя праблемы.

Патрабаваць з трыбуны 5УНС ад урада і вертыкалі «эфектыўна асвойваць новыя тэхналогіі і метады працы», зразумела, можна. Але пакуль асновай беларускай стабільнасці застаецца прынцып нязменнасці ўлады, адставанне ад краін-лідараў будзе павялічвацца.

Крыху міжнароднай статыстыкі. Калі ў 1950-х гадах 35 кабінетаў міністраў у дэмакратычных краінах атрымалі перамогу на перавыбарах, а 37 — прайгралі, то ў 1990-х гадах былі перавыбраны ўсяго 11 кабінетаў міністраў, а 46 пацярпелі паразу. Больш свежых дадзеных я не маю, але не даводзіцца сумнявацца ў тым, што фінансавы крызіс 2008 года паскорыў ратацыю палітычных элітаў у Еўропе. І ў гэтым залог развіцця.

Беларуская мадэль механізму карэкціроўкі курсу не ўтрымлівае, што і пацвердзіў сам факт правядзення 5УНС. Асобныя кідкія лозунгі не павінны ўводзіць у зман, бо сказана: «Беларусь сёння — цытадэль традыцыйнай культуры і маралі. Так будзе заўсёды».

Але традыцыйная культура і мараль — гэта якраз тое, што супрацьстаіць мадэрну, г.зн. развіццю, эвалюцыйнаму развіццю, між іншым. З гэтага факта, аднак, не вынікае, што альтэрнатывай эвалюцыі ў сучасных умовах выступае рэвалюцыя (лакаматыў гісторыі, паводле Маркса). Альтэрнатыва эвалюцыі — гэта бунт (бессэнсоўны і бязлітасны, паводле Пушкіна).

# Чаму абясцэньваецца беларускі камбайн

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Дзе-небудзь за Уралам гомсельмашаўскі камбайн можна набыць танней, чым на заводзе. Больш за тое, нягледзячы на наяўнасць тавару на складзе, далёка не кожны зможа хутка і танна набыць беларускі цуд тэхнікі. Чаму?**

Дзякуючы выбарам у мясцовыя Саветы дэпутатаў у 2014 годзе былі апублікаваныя падатковыя дэкларацыі кандыдатаў. Цікаўныя беларусы тады змаглі зазірнуць у кашалёк тых кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, якія вырашылі стаць народнымі абраннікамі.

Вельмі сімвалічна, што ў Гомельскай вобласці лідарам па сукупным гадавым даходзе стаў генеральны дырэктар ААТ «Гомсельмаш» Аляксандр Камко. Яго сярэднямесячны сукупны гадавы даход, указаны ў падатковай дэкларацыі, склаў звыш $ 7000. Акрамя генеральнага дырэктара высокія даходы пазначылі ў падатковых дэкларацыях і іншыя прадстаўнікі топ-менеджменту ААТ «Гомсельмаш»: намеснік генеральнага дырэктара па якасці зарабляў больш за $ 3000, намеснік дырэктара Дэпартамента рэгіянальных продажаў — $ 2300.

Па выніках жа 2015 года ААТ «Гомсельмаш» займаў другое месца сярод усіх акцыянерных таварыстваў Беларусі і па велічыні атрыманых страт, і па падзенні аб'ёму продажаў.

Як жа так атрымалася, што прадпрыемства, здольнае забяспечыць высокі даход сваіх топ-менеджараў, дакацілася да такога вартага жалю стану?

Адказ на пытанне цалкам відавочны для тых, хто хоць аднойчы спрабаваў заняцца продажам тэхнікі ААТ «Гомсельмаш».

Ад прадстаўнікоў некалькіх не звязаных паміж сабой арганізацый давялося пачуць практычна ідэнтычныя гісторыі, агульную сутнасць якіх лаканічна можна выказаць так: «Без наяўнасці пэўных сувязяў купіць прадукцыю ААТ «Гомсельмаш» вельмі цяжка».

### Бачыш прадукцыю на складзе? — Так. — А яе няма!

Можа, камусьці гэта здасца парадаксальным, але прадукцыю ААТ «Гомсельмаш» можна назваць дэфіцытнай. Нягледзячы на тое, што склады прадпрыемства апошнія гады не пустуюць, афіцыйныя дылеры ў большасці выпадкаў змогуць паставіць тэхніку толькі праз некалькі месяцаў пасля паступлення адпаведнага заказу.

Між тым, на рынку заусёды «круціцца» некалькі арганізацый, гатовых паставіць тэхніку хоць заўтра і па цане не вышэй за цану завода-вытворцы. Склад гэтых кампаній пастаянна відазмяняецца. Хтосьці толькі адкрыўся, хтосьці нядаўна ліквідаваўся, але ўсе яны з гонарам заяўляюць аб прамой працы з заводам-вытворцам, нягледзячы на адсутнасць іх у пераліку афіцыйных дылераў на сайце ААТ «Гомсельмаш». Прычым гэтыя фірмы гатовыя прадставіць пакупніку максімальна шырокі асартымент у любыя тэрміны. Гэта значыць, ажыццявіць тое, што не могуць ні збытавыя службы завода, ні афіцыйныя дылеры. Знайсці адрасы гэтых фірмаў не ўяўляе ніякай складанасці любому ахвочаму, паколькі яны актыўна прапануюць свае паслугі праз інтэрнэт.

### Інфляцыя прадукцыі як беларускае ноу-хау

Як усё гэта працуе? Уся справа ў тым, што дадзеныя камерцыйныя структуры супрацоўнічаюць з ААТ «Гомсельмаш» на ўмовах узаемазаліку. Схема даволі простая: фірма пастаўляе «Гомсельмашу» камплектуючыя з пэўнай гандлёвай надбаўкай, а наўзамен атрымлівае тэхніку па цане завода-вытворцы. Чым вышэй будзе гандлёвая надбаўка, закладзеная ў кошт камплектуючых, тым больш зарабіць фірма ад продажу тэхнікі. Больш за тое, нават прадаючы тэхніку танней самога завода, фірма можа забяспечыць сабе зайздросную рэнтабельнасць.

Паколькі дадзены працэс працягваецца ўжо не адзін год, то з часам прадукцыя «Гомсельмаша» набыла ўласцівасці сродку плацяжу для рынку сельскагаспадарчай тэхнікі, падмяняючы сабой грошы. А, як вядома, павелічэнне колькасці грошай у звароце прыводзіць да інфляцыі. Тое ж самае адбываецца і з беларускімі камбайнамі. На беларускім і расійскім рынках іх сабралася ўжо столькі, што яны не каштуюць нават таго металу, з якога зроблены.

У выніку адбываецца парадаксальная сітуацыя, калі, напрыклад, малдаўскай кампаніі больш выгадна купіць беларускі камбайн дзе-небудзь за Уралам, чым набыць яго ў Беларусі непасрэдна ў вытворцы.

Адказ на тое, хто стаіць за ўсімі гэтымі камерцыйным схемамі і наколькі яны правамерныя, павінны даваць кампетэнтныя органы. Фактычна на шляху патэнцыйных пакупнікоў узнікаюць рознага кшталту «дзялкі», якія прапануюць правесці валютныя патокі праз іх. Акрамя таго, выкарыстанне «непразрыстых» схем сёння пазбаўляе завод не толькі валютных паступленняў, але і дадатковых продажаў.

Калі прадукцыя «Гомсельмаша» паступова губляе ў кошце, то цалкам нядзіўна, што абясцэньваецца і сам завод. За 2015 год, паводле дадзеных Міністэрства фінансаў, чыстыя активы кампаніі скараціліся на 1883 мільярдаў рублёў. У доларавым выражэнні кошт маёмасці ААТ «Гомсельмаш» за год скарацілася амаль у 7 разоў, з $ 205 мільёнаў да $ 30 мільёнаў.

Цікава, ці адлюстроўваецца гэта на прыбытках топменеджменту «Гомсельмаша»? Магчыма, даведаемся гэта ўжо падчас кампаніі па выбарах у беларускі парламент.





# Прамысловасць — лідар па колькасці звольненых

Алесь ЧАРНЯК

**Колькасць звольненых супрацоўнікаў істотна перавышае лічбу прынятых на працу. Гэтая тэндэнцыя захоўваецца з восені мінулага года. У хуткім часе плануецца аптымізацыя колькасці (чытай — звальненне) бюджэтнікаў, а выплаты па беспрацоўі абяцаюць крыху падняць.**

Статыстыка сведчыць, што колькасць новых працоўных месцаў саступае колькасці звольненых з працы работнікаў, з'явілася велізарная чарга на працаўладкаванне дворнікам. Паводле апублікаваных Белстатам дадзеных, у маі на 19 тысяч чалавек, або 32%, колькасць звольненых супрацоўнікаў перавышала лічбу працаўладкаваных. У лідарах па звальненні супрацоўнікаў знаходзяцца прамысловасць (22% ад усёй колькасці звольненых), апрацоўваючая прамысловасць (17,5%), гандаль з аўта- і матарамонтам (14,5%), сельская гаспадарка (13,8%) і будоўля (11,5%).

Гэта галіны, у якіх працуе пераважная большасць жыхароў Беларусі, таму на іх прыходзіцца такая вялікая вага колькасці звольненых. Але, калі параўнаць галіны эканомікі па колькасці прынятых на працу, то ў лідары выходзяць тыя самыя галіны — акрамя прамысловасці, дзе сітуацыя з працоўнымі месцамі выглядае найгорай. Зрэшты па паказчыку дадаткова створаныя працоўныя месцы прамысловасць выходзіць на першыя пазіцыі. Праўда, як 27 мая ў Авальнай зале на ўрадавай гадзіне заўважыла дэпутат Вольга Палітыка, план па стварэнні працоўных месцаў перавыконваецца, а беспрацоўе не зніжаецца. На гэта першы намеснік віцэ-прэм'ера Васіль Мацюшэўскі адказаў, што справа не ў паказчыку: «Паказчык — арыенцір. Трэба разняволіць дзелавую ініцыятыву».

Намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Валеры Кавалькоў на слуханні ў парламенцкай камісіі па бюджэце наўпрост прызнаў, што «расце напружанасць на рынку працы». Паводле яго слоў, «наймальнік найбольш уважліва глядзіць на неабходную колькасць занятых на сваім прадпрыемстве, спрабуе неяк аптымізаваць выдаткі, у тым ліку за кошт скарачэння штату супрацоўнікаў».

Разам з тым 28 чэрвеня агенцтва БелаПАН са спасылкай на Мінпрацы паведаміла пра зніжэнне каэфіцыенту напружанасці на рынку працы (суадносіны зарэгістраваных беспрацоўных да колькасці вакансій) — з 1,7 чалавек на адно працоўнае месца летась да 1,5 — у чэрвені гэтага года.

Паводле афіцыйных дадзеных, узровень зарэгістраваных беспрацоўных у Беларусі на пачатак года складаў 1,2% да эканамічна актыўнага насельніцтва, цяпер Мінпрацы паведамляе пра скарачэнне гэтага паказчыку да 1,1%. Усяго ў маі 2016 года беспрацоўнымі былі зарэгістраваны 12,7 тысяч чалавек. Сёння памер дапамогі па беспрацоўі складае каля 260 тысяч рублёў, што зніжае матывацыю людзей рэгістравацца на біржы. Мяркуецца, што ў бліжэйшы час памер выплат па беспрацоўі будзе павялічаны, але чыноўнікі не кажуць пра тэрміны.

**Ва ўрадзе разглядаецца канцэпцыя ўвядзення абавязковага дзяржаўнага страхавання па беспрацоўі**

На гэты час ва ўрадзе разглядаецца канцэпцыя ўвядзення абавязковага дзяржаўнага страхавання па беспрацоўі, якое мусіць быць дадатковым зборам да адлічэнняў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. На Усебеларускім народным сходзе агучаны арыенцір на «абнаўленне сістэмы кіравання эканомікай» (эўфемізм замест забароненага слова «рэформа»), а таксама «аптымізацыя дзейсных працоўных месцаў» (чытай — скарачэнне занятых). Апошняя ініцыятыва тычыцца найперш бюджэтнай сферы.

# Як у Беларусі стварыць



Аляксей ЧУБАТ

**Краіны Старога свету дасюль намагаюцца канчаткова загаіць раны, якія нанесла Другая сусветная вайна. На Захадзе гэтыя працэсы паспяхова пройдзеныя і завяршаюцца, а Беларусь час ад часу яшчэ стварае барыкады.**

Зразумела, што наша краіна падчас вялікай вайны пацярпела шмат. Фронт рухаўся праз нас два разы — на Маскву, потым назад. Была акупацыя, знішчаны кожны трэці беларус. Аднак іншыя краіны, якія таксама пацярпелі ад гітлераўцаў, ужо прайшлі этап узаемнага прабачэння. Асабліва паказальны прыклад польска-нямецкіх адносін.

### «Прабачаем і просім прабачэння»

Згодна з пасляваеннымі дамовамі, былы Трэці Рэйх быў вымушаны аддаць пераможцам вялікія кавалкі сваёй тэрыторыі. Да Польшчы адышлі цяперашні Гданьск і багатая на зямельныя выкапні Ніжняя Сілезія з Брэслаў, за якім зараз стала замацавалася назва Вроцлаў.

На былыя нямецкія землі паехала шмат народу: і палякі з усходу, і беларусы, і ўкраінцы. Ніжняя Сілезія ў складзе сацыялістычнай Польшчы прывабілвала больш, чым СССР. Але немцы і палякі так і не знайшлі паразумення па пасляваеннай мяжы, і новыя жыхары вроцлаўскага краю доўгія гады чакалі, што старыя гаспадары ў любы момант могуць «папрасіць» іх з абжытага дома. Па гэтай прычыне людзі дзесяцігоддзямі нават не рабілі рамонтаў — а раптам заўтра з'язджаць?

Урэшце такога не адбылося — немцы пераасэнсавалі сваю ролю ў гісторыі XX стагоддзя, папрасілі прабачэння ў народаў Еўропы і змірыліся з тым, што згубілі вялікія кавалкі сваіх гістарычных земляў. Але, што дзіўна, першымі руку прабачэння падалі якраз не немцы, а, наадварот, пацярпелы народ — палякі. 18 лістапада 1965 года польскія епіскапы напісалі ліст сваім нямецкім калегам. «Сапраўднае хрысціянства не можа зжыцца з сітуацыяй, калі хрысціяне суседніх краін знаходзяцца ў канфлікце», — было напісана там. У пасланні, якое падпісалі кіраўнікі польскага касцёла, у тым ліку і будучы папа Ян Павел II, узгадваліся цёмныя і светлыя бакі сумеснай гісторыі. Было сказана і пра пасляваенныя нягоды немцаў, якія вымушана пакідалі сталыя месцы жыхарства. Заканчваўся ліст словамі: «Прабачаем і просім прабачэння». Праз месяц епіскапы ФРГ і ГДР адказалі на заклік сваіх польскіх калег.

У разгар халоднай вайны ўлады камуністычнай Польшчы негатыўна ацанілі гэтую ініцыятыву. Але слова было сказана.



Трасцянец — брама памяці

### Чаму Вроцлаў?

Гэты горад не выпадкова стаў кропкай пачатку польска-нямецкага прымірэння. Ідэі мірнага суіснавання Польшчы і Германіі закладаліся ў ваколіцах Вроцлава ўжо падчас панавання Гітлера. Цэнтрам іх фармавання стала невялічкая вёска, якая да гэтага часу носіць падвойную назву — Кшыжова/Крэйзаў.

Менавіта тут напачатку 40-х гадоў мінулага стагоддзя на сядзібе, якая належала роду фон Мольтке, дзейнічаў антыгітлераўскі гурток. Гісторыкі называюць яго гуртком Крэйзаў — па месцы знаходжання. Кіраваў ім юрыст Хельмут фон Мольтке, цёзка свайго знакамітага родзіча, генерала фон Мольтке, якога нароўні з Бісмаркам лічаць заснавальнікам Германскай імперыі.

Гісторыя ідэй Крэйзаў бярэ пачатак яшчэ ў 1939 годзе, калі Хельмут фон Мольтке і яго сябар Петэр фон Варцэнбург арганізавалі дыскусійны гурток, у якім абмяркоўвалі, як зберагчы Еўропу ад рэжымаў, падобных на нацысцкі. Мольтке і іншыя ўдзельнікі лічылі, што нацызм — часовая з'ява, якая стала вынікам заняпаду хрысціянскіх каштоўнасцей і ростам матэрыялізму і індывідуалізму. На іх думку, нацызм быў крайняй формай гэтай тэндэнцыі, і пасля яго знікнення для чалавецтва павінна адкрыцца новая эпоха.

Таму апазіцыю нацыянал-сацыялізму Мольтке лічыў маральным абавязкам чалавека. Сябры гуртка бачылі паразу Германіі ў Другой сусветнай вайне непазбежнай, і таму збольшага абмяркоўвалі будучыню краіны пасля краху Трэцяга рэйха. Аднак Хельмут фон Мольтке і некаторыя сябры гуртка не дажылі да

# Дзве праўды пра Трасцянец

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**У Трасцянцы 75 гадоў таму супрацоўнікі НКУС расстралялі вязняў мінскіх турмаў. Схаваць месца расстрэлаў хацелі пад гарадскім сметнікам, аднак праўда ўсё адно выйшла ў свет, дзякуючы адзінаму, хто выжыў...**

У чэрвеньскія дні 1941 года часткі НКУС канваявалі па Магілёўскай шашы калоны арыштаваных з мінскіх турмаў, а таксама ахвяр «зачыстак» першых дзён вайны. Усе зняволеныя, якія знаходзіліся пад следствам за ўчыненне так званых «контррэвалюцыйных злачынстваў», былі выведзеныя з горада некалькімі калонамі па 2–4 тысячы чалавек. Адну з калон канваявалі ў бліжэйшы лес — гэта былі наваколлі вёскі Малы Трасцянец, урочышча Благаўшчына. Раней, у канцы 1930-х гадоў, па сведчаннях відавочцаў, былі адселены хутары каля таго самага ўрочышча. Частка тэрыторыі паблізу Магілёўскай шашы адышла пад ахоўны аб'ект НКУС. Адтуль па начах даносіліся стрэлы...

Што адбывалася з вязнямі? Некаторыя ўспаміны вязня мінскай унутранай турмы НКУС



Крыж у памяць расстраляных вязняў мінскіх турмаў

Цодзіка запісаў Анатоль Майсеня ў пачатку 1990-х гадоў.

### Успамін

«...Ішоў трэці дзень вайны — 24 чэрвеня. Немцы імкліва прасоўваліся на Мінскім напрамку, знішчаючы абаронныя лініі нашых войскаў. Пад канвоем выводзілі і адпраўлялі на машынах партыі зняволеных. У турэмным калідоры раз-пораз дрынчэлі звязкі ключоў, ляскалі замкі і гучала адна і тая ж каманда: «Выходзь шыхтавацца».

...За поўнач, гадзіны ў дзве ночы, у турме зноў пачуўся гучны тупат бягучых ног. Дзверы ў камеру Цодзіка расчыніліся насцеж: «Усе на двор шыхтавацца! Хутка!»

Зняволеныя даўно чакалі гэтай каманды, без лішніх збораў пацягнуліся адзін за адным у дзверы... Калона рушыла з месца, крытыя машыны адна за адной выпаўзлі з турэмнай брамы на начную мінскую вуліцу.

Хутка машына збавіла ход, пакацілася па схіле ўніз, а праз хвіліну застыла на месцы. Раздалася каманда, было чуваць, як ззаду саскокваюць на зямлю ахоўнікі з сабакамі — адзін, другі, трэці. Вось цэлае аддзяленне іх прабегла з таго боку, дзе сядзеў Цодзік. Загрымелі замкі, задні борт перакуліўся. «Злазьце па адным і хутка!».

Цодзік саскочыў уніз да сваёй групы. Зняволеныя апынуліся на краі нешырокай лагчыны, парослай маладым хвойнікам і хмызняком.

Каля кожнай машыны напагатове стаяла падраздзяленне ахоўнікаў з сабакамі. Натрэніраваныя аўчаркі злосна рыкалі. Здавалася, яны былі гатовыя разарваць на шматкі гэтых бездапаможных людзей. Калі апошнія зняволеныя апынуліся на зямлі, усіх выстраілі ў шэраг па двое, Цодзік апынуўся другім нумарам, стаяў у задняй лініі.

Двое ахоўнікаў прывалаклі аднекуль вязанку кавалкаў дроту. Рушыла ўслед каманда: «Рукі ўсім назад, трымаць за спінай». Ахоўнікі хадзілі па шэрагах — адзін падаваў дрот, другі схопліваў ім запясці рук і хутка закручваў канцы.

...Надышла чарга Цодзіка — ад дотыку халоднага дроту да рук ён уздрыгнуў. Тры хуткія віткі вакол запясця і нядбайна закручаныя канцы дроту — вось і ўсё. Цодзік паспрабаваў паварушыць рукамі — дрот не даваў, балюча ўпіваўся ў цела. Яшчэ раз — як быццам трохі паддаўся, але няшмат. І для чаго ўсё гэта?

...Іх паставілі на ўскрайку лагчыны, усе чатыры групы зняволеных сцягнулі разам, у адзін шэраг. Спераду і па баках занялі свае пазіцыі ахоўнікі з вінтоўкамі наперавес. Афіцэры выцягнулі пісталеты. Усё рабілася моўчкі ў злавеснай цішыні ранішняга світання. Надзеяў на лепшы выхад ні ў кага са зняволеных не засталося.

...З першымі стрэламі Цодзік ўпаў на зямлю — не, яго не параніла, нават не зачапіла. Спрацаваў рэфлекс «самазахавання», усё адбылося неяк само: стрэл, падкасіліся ногі, паваліўся на зямлю. Страляніна працягвалася, на зямлю падалі новыя целы. Яшчэ стрэлы, яшчэ... Потым усё раптам сціхла. Толькі глухія стогны параненых, маленне аб дапамозе ўрываліся ў гэтую цішыню. Цодзік пачуў каманду: «Праверыць кожнага, у жывых нікога не пакідаць!»

Пачуліся паспешлівыя крокі: яны набліжаліся, зусім ужо побач — Цодзік здрануцеў. Ахоўнік балюча, з усяго размаху ўдарыў у бок Цодзіка — сцяўшы зубы, Цодзік змаўчаў. Побач у забыцці прастагнаў паранены — гэта яго загубіла і выратавала Цодзіка, ахоўнік адразу ж пераключыўся на няшчаснага, прагучаў адзін, потым другі стрэл ва ўпор. Адзінкавыя стрэлы чуліся то тут, то там.

Неўзабаве ўсё зноў сціхла. Не было больш чуваць ні стогнаў, ні стрэлаў. І яшчэ раз ля самай галавы Цодзіка прашамацелі ў густой траве нечыя ногі — відаць, начальнік аховы са сваімі падручнымі правяраў выкананне загаду. Хвіліны праз дзве прагучала каманда: «Па машынах!» Завялі рухавікі, «караван смерці» кранууўся ў зваротны шлях.

# сімвал прымірэння

канца вайны: у студзені 1944 года яны былі арыштаваныя і расстраляныя. Але ідэі Крэйзаў засталіся жыць, каб у пасляваенны час адгукнуцца ў сэрцы епіскапаў.

Місія фон Мольтке на гэтым не скончылася. Яшчэ адна сімвалічная падзея сусветнага маштабу адбылася на сядзібе Кшыжова/Крэйзаў праз тры дні пасля разбурэння Берлінскага муру. 12 лістапада 1989 года прэм'ер-міністр Польшчы Тадэвуш Мазавецкі і канцлер Германіі Гельмут Коль правялі ў гэтым месцы сумесную імшу. Імша стала ключавой цаглінай прымірэння, пасля якой, дарэчы, і была праведзена канчатковая мяжа паміж дзвюма краінамі.

Былы міністр культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы Малгажата Аміланоўская ацэньвае гэтую падзею так: сярод шматлікіх важных палітычных з'яў канца 80-х гадоў дасягнуў сваёй кульмінацыі цяжкі працэс польска-нямецкага яднання. Пасля вайны працэс ішоў марудна, стамляльна для абодвух бакоў. Шмат каму было ўвогуле не зразумела, нашто ён патрэбны, бо ў дыялогу бралі ўдзел знявечаныя вайной людзі. Варожасць і нянавісць былі натуральнымі для іх мыслення. Таму сімвалічнае спатканне прэм'ера Польшчы і канцлера Германіі на былой нямецкай зямлі, дзе нарадзілася новае дэ-




Помнік епіскапам

макратычнае бачанне Германіі, дало пачатак сапраўднаму сяброўству двух народаў.

Разбурэнне Берлінскага муру падарыла немцам і палякам новы шанец, які быў скарыстаны найлепшым чынам.

### Айчынны сімвал прымірэння

Пэўна, у Беларусі няпроста знайсці такое месца, якое аднachасова было б звязана і з антыгітлераўскай барацьбой, і з распрацоўкай дэмакратычнага шляху. Але ў нас ёсць ключавыя помнікі, дзе ўвасоблена трагічная гісторыя Еўропы. Хаця сённяшні беларус глядзіць на гісторыю такіх месцаў праз савецкую гуманітарную оптыку.

Найперш, Брэсцкая крэпасць. У амаль 200-гадовай яе гісторыі хапае розных падзей, але мэтай комплексу было ўвасабленне савецкага гераізму. У пачатку 2000-х гэты трэнд захоўваўся, але ўжо з акцэнтам на моц Беларусі. Зараз прыйшоў час, калі праца па асэнсаванні і даследаванні падзей Другой сусветнай вайны і месца крэпасці выбудоўвае аб'ёмны светапогляд.

«Улетку 2014 года, дзякуючы супрацоўнікам мемарыяльнага комплексу, была створана новая экспазіцыя: «Музей вайны — тэрыторыя міру», — распавядае «Новаму часу» Аліна Дзеравянка, намеснік дырэктара па праектах Фонду развіцця Брэсцкай крэпасці. — Сучасная экспазіцыя з выкарыстаннем мультымедыя-сродкаў закранае такія тэмы: «Напярэдадні», «Бітва», «Выпрабаванне», «Прызнанне», «Рэха вайны», «Спадчына», «Дарогі памяці».

Па назвах бачна, што выкарыстоўваецца новы падыход: у цэнтры ўвагі — персанальныя гісторыі і выпрабаванні. У экспазіцыі закранаецца і тэма палону — раней такога не было. Можна сказаць, што музей па-іншаму акцэнтуе ўвагу: з гераізму на трагічнасць і пакуты вайны. Дарэчы, не так даўно выйшаў зборнік матэрыялаў «Брэст. Лета 1941 года. Дакументы. Матэрыялы. Фотаздымкі». Зборнік — вынік сумеснай працы брэсцкіх і лейпцыгскіх гісторыкаў. Усё гэта кажа пра тое, што пачалася праца над агульным гістарычным падыходам па тэме вайны».

Ёсць спадзяванне, што Брэсцкая крэпасць, дый увогуле Брэст як гістарычны і памежны горад, з часам ператворацца ў месца беларуска-нямецкага дыялогу, дзе будуць прагавораныя і асэнсаваныя самыя цяжкія пытанні.

Другое магчымае месца, дзе ахвярна-памсліва гісторыя мае перайсці ў рэчышча асэнсавання і выпрацоўкі новай архітэктуры ўзаемаадносін — мемарыяльны комплекс «Трасцянец». Трасцянец — агульная назва для трох месцаў: урочышчаў Благаўшчына і Шашкава і в. Малы Трасцянец. Гэтыя беларускія мясціны сталі апошнім прыстанкам для сотняў тысяч нацысцкіх ахвяр. Ужо 11 лістапада 1941 года сюды прывозяць каля 1000 габрэяў з Гамбурга. Праз чатыры дні — яшчэ каля 1000, з Дзюсельдорфа, Вупертала і Эсэна. Усе яны зніклі ў трасцянецкім пекле. У 1941–1943 гадах машына знішчэння набрала велізарныя абароты. У яе малох патрапілі і беларусы — сяляне, мінчане, грамадзяне іншых рэспублік былога Саюза.

Праз 20 гадоў пасля вайны на месцы несувымернай трагедыі адкрыўся першы абеліск. Ужо ў нашы часы працы па мемарыялізацыі памяці ў Трасцянцы разгарнуліся маштабна. У 2015 годзе адкрылася першая чарга комплексу «Трасцянец» — Брама памяці». Існуе і праект архітэктара Леаніда Левіна, які можа быць рэалізаваны. Кажуць, на яго ўжо сабрана патрэбная сума — 1 мільён еўра.

Калі браць пад увагу новы трэнд асэнсавання гісторыі, у які ўжо ўключылася Брэсцкая крэпасць, ёсць надзея, што і комплекс «Трасцянец» не пераўтворыцца ў ідэалагічны аб'ект, а будзе займаца культурна-асветніцкай, даследчай і адукацыйнай працай, стане месцам правядзення міжнародных гістарычных форумаў. І ўрэшце — адкрые новы фармат дыялогу паміж Беларуссю і Германіяй. Дыялогу калі не сяброў, дык хаця б партнёраў, а не былых ворагаў.

# і дзве трагедыі

Колькі часу ён праляжаў у забыцці — невядома. Ачуняў, калі скрозь шчыліны ў кучы мёртвых чалавечых целаў прабівалася дзённае святло. Перад яго вачыма паўстала жудасная карціна — у лагчыне былі сотні перакуленых дагары, распластаных целаў. На перакошаных ад болю тварах, ссінелых вуснах, знявечаных агоніяй, у рудых плямах крыві на траве застыла смерць.

Агаломшаны ўбачаным, Цодзік кінуўся бегчы з усіх ног да лесу і потым яшчэ доўга, не разбіраючы дарогі, прабіраўся напралом праз кусты ядлоўцу, малады ельнік. Спатыкаўся, падаў, падхопліваўся і зноў бег.

На паўдарозе да шашы справа была бачная вёска — хат сто, не болей. Цодзік ледзь ужо не стаў за парог, як згадаў, што хацеў спытаць у бабулі.

— А як называецца ваша вёска?

— Трасцянец называецца.

Праз гады, пасля таго, як ён вярнуўся ў родную Беларусь і пад прозвішчам Дабравольскі пасяліўся ў Віцебску, ён даведаўся пра трагедыю Трасцянца — пра клятае месца, ператворанае фашыстамі ў канцлагер-душагубку. Але мала хто ведаў, што трагедыя Трасцянца пачалася раней, што ў гэтым месцы перапляліся не адна, а дзве трагедыі. А хто мог ведаць? Адзіным сведкам той першай трагедыі застаўся Цодзік».

### Праўда

Можна прывесці яшчэ шэраг сведчанняў, якія пацвярджаюць перадваенную праўду пра Трасцянец. Былі і выпадкі вызвалення некаторых вязняў. З аповеду былога настаўніка Ю.А.Сабалеўскага вынікае, што ён быў арыштаваны ў Мінску органамі НКУС у першы дзень вайны. 24 чэрвеня 1941 года арыштаваных на турэмным двары пашыхтавалі ў калону, якая рушыла па Магілёўскай шашы. 25 чэрвеня на вялікай палянцы ў лесе калону спынілі і абвясцілі, што зараз

**У раёне Трасцянца загінула больш за 500 тысяч чалавек. Агалошваць гэтыя звесткі забаранілі члены ДНК з Масквы. Чаму? Таму што ў гэта цяжка было паверыць... Ці не ўваходзяць у гэты лік і ахвяры НКУС?**

адбудзецца суд. Ахоўнікі падзяліліся на некалькі груп, сталі выклікаць арыштаваных. Сяржант НКУС, даведаўшыся, што Сабалеўскі настаўнік, адпусціў яго. Адпусцілі і яшчэ некалькі чалавек з ліку інтэлігентаў. Астатнія падзялілі маркотную долю расстраляных.

Ёсць і шэраг дакументальных пацвярджэнняў. У прыватнасці, нямецкі журналіст Паўль Коль яшчэ ў 2000 годзе дэталёва распавёў аб тэхналогіі масавага знішчэння вязняў. Ён прадэманстраваў савецкую тапаграфічную карту 1939 года, дзе тэрыторыя ўрочышча Благаўшчына была пазначаная як закрыты ахоўны аб'ект. Ёсць здагадка, што гэта было зроблена зусім не выпадкова, і простае дачыненне да «аб'екту» мае НКУС. Патрабуецца толькі доказная база. І яна ёсць — як вядома, на месцы канцлагера ў 1944 годзе пачала працаваць Дзяржаўная надзвычайная камісія. Першапачаткова вынайшлі пахаванні не там, дзе была яма-печ, не сам канцлагер, а злева ад Магілёўскай шашы ва ўрочышчы Благаўшчына. Тады і былі апублікаваныя першыя афіцыйныя дадзеныя пра колькасць загінулых тут людзей. Па версіі чальцоў камісіі, за паўгода да вызвалення Беларусі фашысты выкопвалі парэшткі і спальвалі іх. Па колькасці попелу і былі зроблены высновы пра колькасць пахаваных у 34 равах.

### Малавядомае

Але ёсць і другая частка заключэння камісіі, пра якую мала хто ведае. Аказваецца, калі камісія пачала працаваць, яна выявіла пахаванні, частка з якіх знаходзілася на тэрыторыі цяперашняга сметніка. Пахаванні апынуліся перадваеннымі. Раскопкі ў гэтым месцы былі неадкладна спыненыя і вынесеныя за 300–400 метраў. У далейшым ускрывалі 34 равы-траншэі.

Пра слушнасць гэтай версіі сведчаць таксама нямала гільзаў ад зброі савецкай даваеннай вытворчасці, выяўленыя ў 1994–1995 гадах супрацоўнікамі музея Вялікай Айчыннай вайны ў Благаўшчыне пры здымках дакументальнага фільма «Трасцянец».

Гэта пацвердзіла і былы вучоны сакратар музея ВАВ А. Валькевіч у 1994 годзе: «Як стала вядома, у раёне Трасцянца загінула больш за 500 000 чалавек. Але агалошваць гэтыя звесткі забаранілі члены ДНК (Дзяржаўнай надзвычайнай камісіі) з Масквы. Чаму? Таму што ў гэта цяжка было паверыць... Можна было запрасіць міжнародных экспертаў. Парэшткі паўмільёна загінулых — не іголка ў сене. І вось тут нараджаецца яшчэ адна, небяспадстаўная думка. А ці не ўваходзяць у гэты лік і ахвяры НКУС 30-х гадоў? Успаміналі ж старыя жыхары вёсак Вялікі Трасцянец і Малы Трасцянец стральбу ў лесе па начах у даваенны час».

У 1957 годзе на месцы перадваенных расстрэлаў з санкцыі ўлады быў зроблены гарадскі сметнік, каб такім чынам схаваць сляды злачынстваў. Інакш проста ніяк нельга растлумачыць з'яўленне гэтага «маскіровачнага аб'екта». І гэта было зроблена, як ні дзіўна, пасля прыняцця ў 1950-м, а затым і ў 1956 годзе рашэнняў пра ўшанаванне памяці ахвяр фашызму.

Сёння практычна немагчыма вызначыць, колькі ахвяр сталінскага тэрору было пахавана на месцы цяперашняга сметніка і ва ўрочышчы Благаўшчына.

Да вайны на месцы, пазначаным на мапе як ахоўная зона, не знаходзіўся ні ваенны палігон, ні іншы ваенны аб'ект. Ён з'явіўся там толькі пасля вайны. Ніводнага дакумента, які пацвярджае факт расстрэлаў у тых жа Курапатах ці ў іншых месцах, як мы ведаем, не ўдаецца знайсці даследчыкам у беларускіх архівах, а архіў КДБ наглуха закрыты да гэтага часу. Не будзе выяўлена дакументаў і па Трасцянцы, таму што яны, гледзячы па ўсім, даўно знішчаныя, каб схаваць сляды злачынства.

Сёння ўжо прыйшоў час назваць устаноўленыя не КДБ, а даследчыкамі імёны катаў, якія стралялі ў патыліцы нашых суграмадзян, у тым ліку і ў раёне Трасцянца. Гэта, у прыватнасці, супрацоўнікі камендатуры НКУС БССР: Нікіцін, Ермакоў, Коба, Якаўлеў, Астрэйка, Дуброўскі, Бачкоў, Бацян, Абрамчык, Мігно. Гэта далёка не поўны спіс нкусаўцаў, якія знішчалі ні ў чым не вінаватых людзей...

У адпаведнасці з урадавай пастановай, у бліжэйшыя гады на плошчы 400 гектараў будзе збудаваны мемарыяльны комплекс «Трасцянец». Перакананы, што гэта павінен быць мемарыял памяці не толькі ахвярам фашызму, але і сталінізму, напамін аб крывавых уроках двух таталітарных рэжымаў ХХ стагоддзя.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЛІТВА. Пачаўся Майдан

Купка студэнтаў і настаўнікаў з намётамі акупавалі частку плошчы перад будынкам парламента. Іх асноўнае патрабаванне — не дапусціць прыняцця новага Працоўнага кодэксу, які пашырае правы працадаўцаў: дазваляе ім прасцей звальняць з працы, павялічваць колькасць працоўных гадзін, скарачаць працягласць адпачынкаў. Ахвярамі новага закона стане менавіта моладзь, якая, як правіла, працуе часова. Каментуючы падзеі, прэса піша, што пратэсты супраць новага кодэксу сталі знакам нараджэння ў краіне новага левага руху. Дасюль гэты фланг літоўскага палітычнага пейзажа займалі экс-камуністы, якія выступалі пад шыльдай эсдэкаў, і прарасійскія партыі накшталт «Рабочай партыі» алігарха Віктара Успаскіх. Дарэчы, апошні факт выкарыстоўваюць некаторыя праціўнікі студэнтаў-пратэстоўцаў і называюць іх «пятай калонай Пуціна».

**Паводле літоўскай прэсы**

### КНДР. Зноў друкуюць фальшывыя долары

Уладу Паўночнай Карэі даўно падазраюць у фальшывамаснецтве. У амерыканскіх спецслужбах кажуць, што Паўночная Карэя запусціла выпуск фальшывых долараў яшчэ ў 1970-я гады. Аднак друкуюць іх перыядычна, каб не выклікаць паніку на фінансавым рынку. Падазрэнні, што станок зноў уключылі, узніклі пасля таго, як днямі ў Кітаі турыст з КНДР паспрабаваў абмяняць долары на юані. Прымаючы долары, клерк заўважыў падазроны нумар на адной з купюраў. Выклікалі паліцыю, якая, у сваю чаргу, канстатавала, што долары сапраўды фальшывыя. Гледзячы па ўсім, турыст з КНДР выконваў нейкае заданне высокіх партфункцыянераў КНДР, паколькі, па яго словах, павінен быў набыць на абмененыя грошы розныя тавары класу люкс. Мінфіны шэрагу краін рэгіёну ўжо заклікалі банкі быць асцярожнымі пры абменных аперацыях. Дарэчы, паводле разлікаў спецыялістаў, сёння па свеце «гуляюць» каля 75 мільёнаў фальшывых долараў, вырабленых у Пхеньяне.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Зюганаў вызначыўся з пераемнікам



Юрый Афонін

Аналізуючы склад федэральнага выбарчага спісу Кампартыі Расійскай Федэрацыі (КПРФ) аналітыкі вылічылі, хто хутчэй за ўсё хутка зменіць Генадзя Зюганава на пасадзе старшыні партыі. Гэта 38-гадовы Юрый Афонін, які займае трэцяе месца ў спісе пасля Зюганава і экс-касманаўта Святланы Савіцкай, якую ўзялі ў спіс для рэкламы партыі. Афонін ужо другі раз фігуруе ў спісе так высока, што дазваляе зрабіць выснову: менавіта ён і ёсць адзін з найбольш верагодных пераемнікаў Зюганава. Тыя, хто асабіста ведае пратэжэ дзядзькі Гены (мянушка Зюганава) характарызуюць Афоніна як вельмі сціплага, неамбіцыйнага чалавека. У сувязі з гэтым папулярны тэзіс, што ён спатрэбіўся Зюганаву, каб кантраляваць партыю і пасля свайго сыходу з пасады старшыні. Цікава, што шматлікім шараговым камуністам не падабаецца, што Афонін заняў у выбарчым спісе КПРФ больш высокае месца за вядомага навукоўца, Нобелеўскага лаўрэата Жарэса Алфёрава.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. У чаканні дзяржперавароту



Арсен Авакаў

Аўтарытэтны журналіст і дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны Сяргей Лешчанка паведаміў, што ў сілавых структурах рыхтуецца дзяржаўны пераварот. У выпадку яго рэалізацыі ўладу ў краіне захопіць цяперашні дырэктар МУС Арсен Авакаў. Знакам для выступу павінна быць прапанова Парашэнкі прагаласаваць за папраўкі ў Канстытуцыю, якія даюць непадкантрольным раёнам Данбаса аўтаномію. Ідэя легалізацыі данецкіх сепаратыстаў вельмі непапулярная сярод патрыятычнай часткі ўкраінскага грамадства і сапраўды можа выклікаць маштабныя пратэсты. Сам Авакаў высмеяў заяву Лешчанкі. «Тэорыя змовы ў МУС» сапраўды трошкі дзіўная, з улікам таго, што Авакаў лічыцца датычным да забойства Сашко Белага — культавай асобы сярод нацыяналістаў. Таму яны наўрад ці падтрымаюць авантуру Авакава, калі яна будзе мець месца. З іншага боку, трэба прызнаць, што запыт на моцную руку сярод украінцаў сапраўды расце.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# «Пачуць Данбас» па-брытанску

Зміцер ГАЛКО

**Хаця вынікі брытанскага рэферэндуму не былі прадвызначаныя, а яго правядзенне не было падмацаванае прысутнасцю замежных войск, у яго ёсць нямала агульных рысаў з данбаскім рэферэндумам аб «самавызначэнні».**




Фота Solent News

**Прыхільнік Brexit. «Не для таго дзяды ваявалі, каб намі кіраваў прагнілы ЕС!»**

Брытанія мела другую па велічыні эканоміку сярод краін ЕС і была трэцяй краінай па колькасці насельніцтва. На першы погляд, яе выхад нельга ацаніць інакш як катастрофу. Але ў кантэксце гістарычных узаемаадносін Брытаніі з Еўропай Brexit не выглядае перуном сярод яснага неба.

Духоўны бацька аб'яднанай Еўропы, Уінстан Чэрчыль, у 1944 годзе раздражнёна кінуў Шарлю дэ Голю: «Калі Вялікабрытанія павінна выбіраць паміж Еўропай і адкрытым морам, яна павінна заўсёды выбіраць адкрытае мора».

І хаця неўзабаве пасля вайны Чэрчыль пачаў прапагандаваць ідэю «Злучаных Штатаў Еўропы», Брытанію ён ставіў асобна. Маўляў, мы з імі, але да іх не належым.

У 1951 годзе, калі з'явілася Еўрапейскае аб'яднанне вугалю і сталі — ядро будучага Еўрасаюза, — Брытанію туды запрасілі, але яна адказала: «Дзякуй, не трэба». Імперскі гонар не дазваляў трываць наднацыянальныя органы ўлады.

Тым часам імперыя развальвалася на вачах, а Еўрапейская эканамічная супольнасць дэманстравала зайздросны рост. Брытанія схамянулася — і ў 1963 годзе падала заяўку на ўступленне. Але той самы Шарль дэ Голь адправіў яе, так бы мовіць, у адкрытае мора. Францыя наклала сваё вета на ўступленне Брытаніі. І потым яшчэ раз зрабіла тое ж самае праз чатыры гады.

Генерал вінавуціў Брытанію ў «глыбіннай варожасці» да еўрапейскага аб'яднання і «вельмі асаблівых звычках і традыцыях, адрозных ад кантынентальных». Брытанцы пакрыўдзіліся, але вырашылі, што генерал — папросту англафоб.

Праз чатыры гады пасля смерці генерала дэ Голя, у 1973 годзе, брытанцы ўсё ж такі ўступілі ў ЕЭС. А ўжо ў 1975 годзе праводзілі першы (!) у сваёй гісторыі агульнанацыянальны рэферэндум па пытанні «быць ці не быць у Еўропе?». Тады дзве трэціны брытанцаў вырашылі, што быць. Але ў Еўропы, мабыць, асадак застаўся.

Як завагаліся адразу пасля ўступлення, так і вагаліся да самага канца. Гэтае не падпішам, тое не прымем. За што Брытанію называлі «нязграбным партнёрам».

Маргарэт Тэтчэр у 1988 годзе адвесіла ў Бругге гучную аплявуху еўрапейцам. Пасля прэлюдыі, прысвечанай слаўнаму еўрапейскаму мінуламу, Жалезная лэдзі выбухнула крытыкай: нас падманулі! Мы думалі, што гэта будзе толькі агульны рынак, а не каб намі камандавала брусэльская бюракратыя! Не дамо прынізіць наш нацыянальны гонар і суверэнітэт!

Карацей, брытанцы былі еўраскептыкамі яшчэ тады, калі тое не стала мейнстрымам.

Запрапанаваная калісьці Уінстанам Чэрчылем ідэя «Злучаных Штатаў Еўропы» заснавальнікам еўрапейскага аб'яднання прыйшлася даспадобы, яны імкнуліся да яе ажыццяўлення. У той час як брытанцам яна з самага пачатку не падабалася.

Такое перацягванне коўдры не магло працягвацца бясконца.

У іншай сітуацыі можна было б дыскутаваць, што лепей — «Еўропа аб'яднаных суверэнных нацыяў», як гэта бачаць брытанцы, ці «Злучаныя Штаты Еўропы», як тое бачаць немцы? І знайсці аргументы на карысць брытанскага варыянту. Гэтак жа сама, як можна было б абмяркоўваць рацыю правядзення рэферэндуму па пытанні прадастаўлення аўтаноміі ці «асаблівага статусу» Данбасу...

У гэтых рэферэндумаў ёсць нямала агульных рысаў.

Арганізатары абодвух рэферэндумаў мелі на мэце захаванне палітычнай улады, якая пахіснулася, і выбіванне прэферэнцый у цэнтра. Брытанскі прэм'ер шляхам правядзення рэферэндуму імкнуўся такім чынам нанесці ўдар па крылу еўраскептыкаў ва ўласнай Кансерватыўнай партыі, а таксама прымусіць ЕС пайсці насустрач у перамовах пра «асаблівы статус» Брытаніі.

Галоўнымі пераможцамі абодвух рэферэндумаў сталі да таго маргінальныя постаці. Да рэферэндуму «Партыі незалежнасці Злучанага Каралеўства» мела ўсяго аднаго прадстаўніка ў парламенце і ўспрымалася палітычным істэблішментам як непрыемны, але бяскрыўдны раздражняльнік. Brexit зрабіў лідара партыі Найджэла Фараджа палітыкам нацыянальнага маштабу.

У абодвух выпадках вялікую ролю адыгралі пачуццё настальгіі па «старых добрых часах» і «былой велічы», нацыянальная і сацыяльная варожасць, пратэст супраць сучаснасці.

За выхад Брытаніі з ЕС галасавалі ў асноўным людзі старэйшага ўзросту, меней адукаваныя, не надта забяспечаныя, жыхары індустрыяльных або ў мінулым індустрыяльных, а цяпер дэпрэсіўных рэгіёнаў. Як Данбас.

Нямала тых, хто галасаваў за выхад Брытаніі з ЕС, не толькі не прадбачылі імгненных негатыўных наступстваў, але і асабліва не верылі, што давядзецца выходзіць. Збольшага імі рухала жаданне прадэманстраваць сваё «фэ» істэблішменту, адыграўшыся за нізкія заробкі і выбоіны на дарогах у наваколлі, пры гэтым нічым не рызыкуючы.

Напярэдадні рэферэндуму ў Брытаніі таксама пралілася кроў. Была забітая ўзыходзячая зорка брытанскай палітыкі, дэпутатка парламенту Джо Кокс, заўзятая праціўніца выхаду Брытаніі з ЕС. Калі ў яе забойцы ў судзе спыталі імя, ён адказаў: «Смерць здраднікам, свабоду Брытаніі!»

На вынік брытанскага рэферэндуму Расія не магла ўплываць наўпрост, але была ў ім зацікаўленая і прыклала руку. Хаця б прадастаўляючы трыбуну Найджэлу Фараджу на тэлеканале RT. Калі яе ўдзел гэтым і абмяжоўваўся, яна здабыла козыр у сваіх геапалітычных авантурах на дурніцу.

Крэмль ніколі не хаваў свайго раздражнення ад тандэму ЗША — ЕС і заўжды імкнуўся дамагчыся яго распаду. Галоўным жа ланцугом у ім была Брытанія. Без яе сувязь і ўзгодненасць дзеянняў паміж ЗША і Еўропай моцна аслабне.

І сама Брытанія, ужо як асобны палітычны гулец, рызыкуе стаць значна больш прарасійскай. Борыс Джонсан, твар кампаніі за выхад з ЕС, які пасля адстаўкі Дэвіда Кэмерана стане найбольш верагодным кандыдатам на пасаду прэм'ера, ухваляў дзеянні Пуціна ў Сірыі і абвінавачваў Еўрасаюз у правакаванні расійскай агрэсіі супраць Украіны.

Гэта ўжо катастрофа? Яшчэ не, толькі прэлюдыя да яе. Катастрофа будзе, калі ў лістападзе ЗША абяруць Дональда Трампа прэзідэнтам. Гэта ўжо будзе «данбаскі сіндром» сапраўды планетарнага маштабу.

# Трамп можа спатыкнуцца аб канвент

Алег НОВІКАЎ

**За акіянам скончыліся праймерыз. Надышоў час партыйных з'ездаў — так званых «канвентаў», якія павінны зацвердзіць пераможцаў на пасаду кандыдата ў прэзідэнты. І хаця гэта выглядае як фармальнасць, на самай справе партыйныя з'езды — рэч непрадказальная.**



Канешне, колькасць прыхільнікаў таго ці іншага прэтэндэнта ў кандыдаты вызначылася яшчэ на стадыі праймерыз. Такім чынам, дэмакратаў павінна прадстаўляць Хілары Клінтан, а рэспубліканцаў — Дональд Трамп. Аднак звычайны алгарытм можа не спрацаваць, паколькі галасаваць дэлегаты могуць як заўгодна.

Першы выпадак, калі фаварыт у выніку канвента не стаў кандыдатам на пасаду прэзідэнта, меў месца ў 1836 годзе на зборах Антымасонскай партыі. Гэтая практычна забытая цяпер фармацыя ў свой час карысталася вялікай падтрымкай амерыканцаў за кошт аднаго абяцання — вылічыць усіх масонаў, што, маўляў, заселі ў дзяржаўнай вертыкалі. Канвент антымасонаў абраў кандыдатам у прэзідэнты папулярнага генерала і губернатара Уільяма Гарысана. Аднак праз пару месяцаў сярод партыйнага актыву пайшла гуляць плётка пра тое, што Гарысан на самай справе сам масон. Каб высветліць праўду, антымасоны вырашылі склікаць новы канвент. Хаця падчас з'езду Гарысан урачыста заверыў публіку, што ён не масон, дэлегаты скасавалі яго намінацыю.

Гэтая гісторыя мела цікавы працяг. Гарысан, пакінуўшы шэрагі антымасонаў, дамогся намінацыі ў прэзідэнты 1840-м ад партыі вігаў — не будучы спачатку фаварытам. Калі яго праціўнікі даведаліся пра вынікі галасавання канвенту, яны ледзь не забілі адзін аднаго. Што тычыцца Гарысана, то ў наступным годзе ён усё ж стаў прэзідэнтам, каб праз 36 дзён кадэнцыі захварэць і памерці ад пнеўманіі.

Драматычным апынуўся і нацыянальны канвент дэмакратаў у 1860-м, калі Злучаныя Штаты былі расколатыя па пытанні захавання рабаўладання. Незадаволеныя тым, што большасць на з'ездзе прагаласавала за праціўніка рабства Стэфана Дугласа, «паўднёвыя дэмакраты» вырашылі правесці ўласны канвент. На ім быў высунуты свой кандыдат. Схізма сярод дэмакратаў дапамагла прадстаўніку рэспубліканцаў — Аўрааму Лінкальну, — выйграць прэзідэнцкую гонку.

З іншага боку, спрэчкі ўнутры дэмпартыі паскорылі рост сепаратызму на Поўдні, які хутка прывёў да адкрытых заклікаў пра выхад рабаўладальніцкіх штатаў са складу ЗША і да пачатку грамадзянскай вайны.

Рэспубліканскі канвент 1912-га таксама скончыўся расколам, хаця нічога не спачатку не сведчыла пра такі змрочны фінал. Тэадор Рузвельт, які меў падтрымку большасці дэлегатаў, напачатку ўвогуле лічыў залішнім нават ехаць на канвент. Аднак да яго пачалі даходзіць чуткі, што яго асноўны канкурэнт, Уільям Тафт, вядзе брудную гульню. Напрыклад, яго людзі з дапамогай бейсбольных бітаў блакуюць прыбыццё на зборы правільных прыхільнікаў Рузвельта. У выніку Тафта абралі кандыдатам. Абураны Рузвельт прыбыў на зборы і назваў галасаванне за Тафта «нахабным крадзяжом».

Пасля Рузвельт заснаваў новую партструктуру — Прагрэсіўную партыю, кандыдатам ад якой ён і стаў. У выніку прайгралі і Тафт, і Рузвельт: прэзідэнтам быў абраны дэмакрат Вудра Вільсан.

Дзякуючы канвенту рэспубліканцаў 1920-га, палітычны лексікон папоўніўся такім азначэннем, як «пакоі для палення» як сінонім палітычнай карупцыі. Менавіта ў пакоях для палення аднаго чыкагскага гатэля, дзе адбываўся кангрэс, шлі доўгія перамовы наконт кампраміснага для ўсіх прысутных фракцый кандыдата. У выніку партыйныя бароны вырашылі высунуць губернатара Агая Джорджа Хардынга, які ўвогуле спачатку не ўдзельнічаў у праймерыз. Пасля было праведзена дзесяць тураў канвенту, каб у выніку Хардынг прабіўся на пасаду кандыдата ў прэзідэнты.

**У прэсе хапае спекуляцый наконт таго, што праціўнікі Трампа збіраюцца сарваць яго зацвярджэнне, каб кампраметаваць партыю**

16 дзён цягнуўся партыйны канвент дэмакратаў 1924 года. Гэта рэкорд. Аднак больш канвент запомніўся ўдзелам сяброў радыкальнай расісцкай групоўкі «Ку-Клус-Клан». Дзякуючы гарачай падтрымцы ККК кандыдат-аўтсайдэр Джон Дэвіс нечакана для ўсіх выйграў намінацыю. Праўда, паведамленні пра метады прыхільнікаў Дэвіса з ККК выклікалі негатыўную рэакцыю ў грамадстве, і дэмакраты са свістам прайгралі рэспубліканцам.

Наступнага скандальнага партыйнага з'езду давялося чакаць 40 гадоў, калі ў 1964-м рэспубліканцы сабраліся ў Каліфорніі. На момант старту мерапрыемства лічылася, што намінацыя стоадсоткава ў кішэні ў губернатара Нью-Ёрка Нэльсана Ракфелера. Аднак па ходу збораў той дапусціў фатальную памылку: прапанаваў асудзіць нейкую звязаную з расістамі арганізацыю. Рэакцыя аўдыторыі была настолькі негатыўнай, што кандыдатуру Ракфелера знялі на карысць ультракансерватара Бары Галдуотэра.

Канвент рэспубліканцаў 1964-га ў прэсе параўноўвалі са славутым рок-фестывалем «Вудсток», толькі з кансерватыўным прысмакам. Левацкі Вудсток адбыўся на зборах дэмакратаў у 1968 годзе ў Чыкага. Анархісты прапанавалі абраць у кандыдаты ад дэмакратаў парася Pigasus, якога паспрабавалі працягнуць у залу пасяджэнняў. У выніку пачалася маштабная бойка паліцыі са студэнтамі, у якой больш за ўсё дасталася журналістам.

Апошні скандальны партыйны канвент меў месца ў 1976 годзе. Пераможца праймерыз, тагачасны прэзідэнт Джэральд Форд прыбыў на зборы ў Канзас-Сіці, дзе яго чакаў непрыемны сюрпрыз — вялікая колькасць дэлегатаў з заходніх штатаў у апошні момант змяніла сваё меркаванне пад уплывам ваяўнічых антысавецкіх прамоў яго апанента Рональда Рэйгана. Заблакаваўшы вельмі важную для планаў Рэйгана папраўку ў рэгламент галасавання, Форд у выніку атрымаў патрэбныя яму пераможныя 52 працэнты прысутных. Аднак рэйганаўская каўбойская атака на Форда вельмі спадабалася партыйнаму базісу і фактычна праклала Рональду шлях да перамогі на выбарах 1980-га.

Ці ёсць верагоднасць, што партыйныя канвенты 2016-га папоўняць прыведзены вышэй спіс? Так, і яна даволі вялікая. У прэсе хапае спекуляцый наконт таго, што праціўнікі Дональда Трампа збіраюцца сарваць яго зацвярджэнне на пасаду кандыдата, каб не даць скампраметаваць партыю. Быццам бы зараз вядзецца апрацоўка будучых дэлегатаў канвенту. Так што набывайце папкорн. Шоў абяцае быць грандыёзным.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Юлія Цімашэнка



Лідарка ўкраінскай партыі «Бацькаўшчына» і экс-прэм'ер гэтай краіны 28 чэрвеня стала бабуляй. Яе адзіная дачка Яўгенія нарадзіла дзяўчынку. Нягледзячы на тое, што падзея падаецца цалкам унутрысямейнай, яна выклікала вялікі інтарэс у грамадстве.

На думку палітолагаў, вобраз бабулі пазітыўна паўплывае на імідж палітыка, і ў тым ліку дапаможа Цімашэнка ў выпадку абвяшчэння датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў, якія не выключаны з-за слабага рэйтынгу цяперашняга гаранта Пятра Парашэнкі. Акрамя таго, наяўнасць унучкі дапаможа ёй зноў вярнуць да сябе інтарэс украінцаў, які трошкі саслаб пасля вызвалення з расійскай турмы Надзеі Саўчанка.

Праўда, Саўчанка сваімі рэзкімі выказваннямі сама, на думку экспертаў, разбурае свой гераічны вобраз. Дайшло да таго, што некаторыя патрабуюць пазбавіць Саўчанка звання героя Украіны за яе публічныя прапановы пошуку кампрамісу з сепаратыстамі Данбасу.

Застаецца дадаць, што ў дзень нараджэння ўнучкі Цімашэнкі Надзея Саўчанка зрабіла новую супярэчлівую заяву — падчас візіту ў Запарожжа заклікала будаваць такую мадэль Украіны, дзе не будзе цэнтральнага ўраду і пасады прэзідэнта.

### Садзік Хан



Нядаўна абраны мэр Лондану, этнічны пакістанец, зрабіў свой унёсак у эскалацыю палітычнага хаосу, які ахапіў брытанскі палітыкум пасля рэферэндуму 23 чэрвеня. Сталічны бургамістр заявіў, што горад, дзе большасць выказалася за захаванне краіны ў складзе ЕС, «павінен узяць кантроль над сваім лёсам, каб перажыць наступствы Brexit». Хаця сам аўтар фразы расшыфраваў яе як неабходнасць пашырэння фіскальнай аўтаноміі і кантроль муніцыпалітэта над бізнесам, эксперты пабачылі тут адзнакі сепаратызму.

Справа ў тым, што сярод палітычнай эліты Брытаніі ўсё больш прывабнай становіцца ідэя стварэння Канстытуцыі (зараз у Брытаніі няма адзінага дакумента, які можна назваць Асноўным законам краіны. — НЧ), каб знайсці кампраміс паміж прыхільнікамі еўраінтэграцыі і не дапусціць выхаду са складу краіны рэгіёнаў накшталт Шатландыі. На думку адмыслоўцаў, лонданцы могуць таксама ўлезці ў гэты працэс і выгандлеваць сабе нейкія дадатковыя правы, у крайнім выпадку — сапраўды дамагчыся эканамічных прывілеяў.

Дарэчы, сярод лонданцаў праект ператварэння сталіцы ў «вольны горад» на вачах набывае папулярнасць. Петыцыю на адрас мэра з заклікам абвясціць горад незалежным ад Вялікабрытаніі ўжо падпісалі каля 170 тысяч чалавек.

### Нікалае Цімофці



З падачы прэзідэнта Малдовы Вышэйшы савет бяспекі гэтай краіны прыняў новую стратэгію нацыянальнай бяспекі. У якасці знешніх пагроз у праекце адзначаны рэгіянальная нестабільнасць, канфлікт ва Украіне і ўмяшанне замежных грамадзян у праблемы ўнутранай палітыкі краіны. Сярод унутраных рызык — працяг прыднястроўскага канфлікту.

У прынцыпе, нічога асабліва новага ў тэксце стратэгіі няма, акрамя незвычайнага пункта — «інфармацыйная пагроза». Відавочна, пад апошняй разумеюцца расійскія СМІ, якія актыўна працуюць у краіне. На думку левай (як правіла, прарасійскай) апазіцыі, пункт пра медыя-пагрозу з'явіўся невыпадкова. Маўляў, у верасні рашэннем парламента ўсе расійскія СМІ будуць выведзеныя з інфармацыйнага поля Малдовы. Таму што ў кастрычніку ў рэспубліцы будуць усенародна абіраць прэзідэнта — упершыню з 2000 года, калі функцыя абрання кіраўніка дзяржавы была перададзена парламенту.

У выпадку, калі ў краіне не будзе прарасійскіх СМІ, сімпатыі да прамаскоўскіх палітсілаў у малдаўскім соцыуме будуць паслабленыя. Калі плёткі апазіцыі маюць грунт, увосень мы станем сведкамі самай маштабнай медыя-зачысткі ў гісторыі краін СНД.



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

# Судовы працэс даўжынёй у 14 гадоў

**У 1913 годзе ў сваім маёнтку ў Тэрэзіне пад Варшавай была забіта вядомая ў Расійскай імперыі асоба — кіраўнік Аўтамабільнага таварыства Царства Польскага, князь Уладзіслаў Друцкі-Любецкі. Следства па гэтай справе, а затым і судовы працэс з-за Першай сусветнай, а пазней і польска-бальшавіцкай войнаў расцягнуліся на доўгія гады.**



ДѢЛО БАРОНА БИСПИНГА.

Убитый кн. Друцкій-Любецкій. Баронъ Янъ Биспингъ, обвиняющійся въ убійствѣ кн. Друцкаго-Любецкаго. Замокъ кн. Друцкаго-Любецкаго въ Тересинѣ, гдѣ совершено убійство князя.

## Таямнічае забойства

Уладзіслаў Друцкі-Любецкі быў гаспадаром значных зямельных маёнткаў у Беларусі і Польшчы. У Шчучыне па праекце архітэктара Тадэвуша Растварoўскага для князя пабудавалі палац, які нагадваў версальскі Малы Трыянон. У 1907 годзе землеўласнік стаў прэзідэнтам Гродна. Праз два гады ён набыў палац у Тэрэсіне пад Варшавай.

Асноўным хобі Друцкага-Любецкага былі аўтамабілі. Ён стаў старшынёй Таварыства аўтамабілістаў Царства Польскага. Кепскі зрок не перашкаджаў яму ганяць на аўтамабілі па беларускіх і польскіх дарогах. Пры гэтым побач з ім заўсёды быў кіроўца-беларус, які ў выпадку небяспекі страхаваў гаспадара.

У красавіку 1913 года гаспадар палацу ў Шчучыне быў забіты пры нявысветленых абставінах. Напярэдадні князь вярнуўся са сталіцы Расійскай імперыі ў Варшаву, і хутка разам са сваім стрыечным братам, гаспадаром маёнтку Масаляны на Гродзеншчыне і адначасова кіраўніком спраў Паўночна-Заходняга таварыства вінакурэння Іванам Біспінгам, накіраваўся ў Тэрэсін. Пасля абеду Друцкі-Любецкі паказаў сваяку новыя месцы для палявання. Абодва вярнуліся на вячэру і, як адзначалася ў матэрыялах следства, вельмі гучна спрачаліся па-французску.

Калі барон Біспінг пажадаў вярнуцца ў Варшаву, князь Друцкі вырашыў уласнаручна адвезці госця на вакзал на фурманцы. Увечары цела гаспадара палацу ў Тэрэсіне было знойдзена ў лесе. Ускрыццё паказала, што Друцкі-Любецкі быў забіты кулявымі стрэламі, адзін з якіх выбіў гарадзенскаму землеўласніку вока.

«Паводле думкі прафесара кафедры судовай медыцыны Варшаўскага ўніверсітэта Таранухіна і ўрача Сахачэўскага павета Залоўскага, смерць князя наступіла ў выніку парушэння цэласнасці мозгу, што адбылося ў выпадку агняcтрэльнага ранення. Другая рана была ў раёне крыжа і можа быць залічана да ўзроўню цяжкіх. [...] Крывавая расправа працягвалася не больш за 10 хвілін. Князь памёр праз 15–20 хвілін пасля атрымання ранення». Быў забіты за 5–6 гадзін да моманту, калі яго цела было знойдзена», — адзначалася ў газеце «Штодзённы ілюстраваны кур'ер» за 17 мая 1914 года.





Огонекъ

Воскресенье, 18 (31) мая 1914 г. № 20

Дѣло Биспинга въ варшавскомъ окружномъ судѣ.

## Галоўны падазраваны

Цела забітага пахавалі ў Шчучыне. На гэтым, аднак, справа не скончылася. У ноч з 28 на 29 красавіка 1913 года невядомыя прабраліся ў палац Друцкіх-Любецкіх і абрабавалі кабінет князя. Сярод іншых зніклі некалькі пісталетаў замежнай вытворчасці, танныя каралі і... тэчка з дзелавымі паперамі.

У маі 1913-га па абвінавачванні ў забойстве землеўласніка са Шчучына расійская паліцыя арыштавала барона Івана Біспінга. Таго самага стрыечнага брата, што накіраваўся ў апошняе падарожжа з забітым. Аказалася, што падазраваны не меў алібі. Па яго ўласных словах, ён развітаўся з Друцкім-Любецкім у лесе, бо той сустрэў нейкіх людзей і пачаў з імі размаўляць. Аднак на цягнік да Варшавы Біспінг не паспеў і вырашыў ісці пешшу ў Блонь, адкуль даехаў да сталіцы Царства Польскага. Царскія следчыя ў гэта не паверылі і пачалі разбірацца ў справе.

У маі 1914 года адбылося першае судовае пасяджэнне. Пракурор націскаў, што ў Біспінга былі знойдзены 7 падпісаных Друцкім-Любецкім вэксаляў на прад'яўніка (кожны па 50 тысяч расійскіх рублёў). Пазней аказалася, што подпісы на дакументах былі падробленымі. На думку следства, абвінавачваны збіраўся выкарыстаць гэтыя грошы ў якасці хабару для чыноўнікаў Гродзенскай губерні, якія павінны былі вызваліць землі Біспінга са спісу тых, што прызначаліся да будаўніцтва абарончых умацаванняў.

Далей — больш. Следчыя выявілі, што за год да забойства Уладзіслава Друцкага-Любецкага яго двойчы спрабавалі атруціць, падсыпаўшы ў гарбату стрыхнін. Абодва выпадкі здараліся, калі побач быў Біспінг. Аднак барон трымаўся і не прызнаваў сваю віну. Следчым нічога не заставалася, як апытваць сведкаў (сярод іншых у паліцыю былі выкліканы англійскі віцэ-консул у Брусэлі Масль Сцікс, князі Святаполк-Мірскі, Замойскі, Сапега, шэраг гродзенскіх чыноўнікаў).

Хутка царскія паліцэйскія ўсталявалі, што кулі, якімі быў забіты Друцкі-Любецкі, былі выпушчаны з пісталета, які належаў Івану Біспінгу. Урэшце 13 чэрвеня 1914 года Біспінг быў прысуджаны да страты ўсіх правоў і прывілеяў, а таксама да чатырох гадоў зняволення ў арыштанцкіх ротах. Аднак адвакатам атрымалася дабіцца вызвалення гаспадара Масалян пад заклад у 100 тысяч рублёў.

## Аднаўленне справы

Хутка пасля гэтага пачалася Першая сусветная вайна, і пра забойства кіраўніка Таварыства аўтамабілістаў Царства Польскага расійскія ўлады забылі. Тым часам кайзераўскія войскі акупавалі польскія землі, увайшлі ў Беларусь, і фронт спыніўся пад Баранавічамі і Нарачччу. Пазней загадала доўга жыць імперыя Раманавых. У 1919 годзе пачалася польска-бальшавіцкая вайна, якая скончылася перамогай Другой Рэчы Паспалітай.

Тады ж Польшчы прыйшлося ўзгадаць пра гучнае забойства гаспадара палацаў у Шчучыне і Тэрэсіне. Адбылося гэта па ініцыятыве... Івана Біспінга. Ён вельмі жадаў быць апраўданым па гэтай справе. Польскія ўлады атрымалі ад бальшавікоў 17 тамоў судовай справы, якія за кошт асуджанага былі перакладзены на польскую мову. Хутка пасля гэтага працэс быў адноўлены.

У лютым 1926 года справа дайшла да Апеляцыйнага суда ў Варшаве. Польскія следчыя выявілі, што паміж жонкай князя Друцкага-Любецкага і адным з леснікоў быў раман. Аднак гэтая версія не атрымала падтрымкі і, урэшце, суд Другой Рэчы Паспалітай пакінуў прысуд царскага суду амаль без змянення. Тэрмін турэмнага зняволення для Біспінга быў паменшаны да 2 гадоў і 8 месяцаў.

Аднак барон працягваў змагацца. Яго адвакаты накіравалі скаргу ў Вярхоўны суд, супрацоўнікі якога ўбачылі ў працэсе парушэнні (напрыклад, у якасці сведкі абвінавачвання польскі суд дапытаў... былога царскага пракурора, які ў 1914 годзе займаўся гэтай справай). 23 сакавіка 1927 года справа была накіравана на даследаванне. Польскія следчыя выявілі, што перад смерцю князь Друцкі-Любецкі баяўся з забойцай і атрымаў цяжкія пашкоджанні, аднак Біспінг не мог іх нанесці, бо меў праблемы з рукой. Урэшце, 5 мая 1928 года польскі Апеляцыйны суд апраўдаў барона і зняў з яго ўсе абвінавачанні.

Сапраўднага забойцу гаспадара палацаў у Шчучыне і Тэрэсіне так і не знайшлі. Паводле адной з версій, князь быў забіты наёмным забойцам, якога накіравалі прадстаўнікі яўрэйскай дыяспары Вільні. Быццам бы ў землеўласніка са Шчучына была адно з найбольш старых і малавядомых выданняў Талмуда, які той не жадаў прадаваць. Урэшце было вырашана ўзяць кнігу сілай. Гэтым можна патлумачыць спробу ўварвання ў палац Друцкага-Любецкага і выкраданне дакументаў з яго кабінета. Выказвалася таксама думка, што ў забойстве князя вінаваты нейкія рэвалюцыянеры. На жаль, зараз выявіць, хто ж быў сапраўдным забойцай князя і якія былі ў яго матывы, не прадстаўляецца магчымым.

Што ж тычыцца Івана Біспінга, то да пачатку Другой сусветнай вайны ён жыў у сваім маёнтку Масаляны пад Горадняй. Пасля 17 верасня 1939 года сям'я барона спрабавала ўцячы ад бальшавікоў, аднак была затрымана НКУС. Барон быў забіты, а яго блізкіх арыштавалі. Так пайшоў з жыцця галоўны фігурант гучнай судовай аферы пачатку XX стагоддзя на беларускіх і польскіх землях. З сабой у магілу ён забраў і ўсе падрабязнасці той справы.

# «Беларускі рух і Польшча»

## Сціслая гісторыя Беларусі Амбруаза Жабэра

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Паміж дзвюма сусветнымі войнамі яшчэ адзін француз цікавіўся Беларуссю — гісторык-паланіст, патомны прафесар гісторыі Грэнобльскага ўніверсітэта Амбруаз Жабэр.**






Да Беларусі, як і вядомыя нам ужо Рэнэ і Антуан Мартэлі, ён прыйшоў таксама праз Польшчу, праз Першую Рэч Паспалітую, калі зусім дакладна. Менавіта Першая Рэч Паспалітая стане тэмай усяго жыцця гісторыка. І менавіта праз яе ён адкрые беларускую тэму, беларускі «лінгвістычны нацыяналізм», беларускі рух.

Уласна пра Беларусь Амбруаз Жабэр (Ambroise Jobert) (1904–1988) пакіне невялічкую манаграфію на 35 старонак — «Беларускі рух і Польшча» (Le Mouvement biélorusse et la Pologne, 1939). Праца была знойдзеная і апрацаваная ў Скарынаўцы. На сёння яна не вядомая ў Беларусі, тым больш на тле іншых вельмі вядомых прац гісторыка: «Гісторыя Польшчы» (Histoire de la Pologne, Presses universitaires de France, 1953), «Ад Лютара да Магілы: Польшча падчас крызы хрысціянства» (De Luther à Mohila. La Pologne dans la crise de la Chrétienté, 1517–1648, Institut d'études slaves, 1974), «Эразм і Польшча» (Érasme et la Pologne, 1961), «Рэлігійная талерантнасць у Польшчы XVI ст.» (La Tolérance religieuse en Pologne au xvie siècle, G. C. Sansoni Editore, 1957), «Ля вытокаў Берасцейскай уніі: пратэстантызм у Рутэніі» (Aux origines de l'union de Briest: le protestantisme en Ruthénie, 1959) альбо «Польскія магнаты і французскія фізіякраты» (Magnats polonais et physiocrates français: 1767–1774, Les Belles Lettres, 1941).

Як бачна з назваў, усе яны тычацца і Беларусі, і з'яўляюцца цудоўнымі аналітычнымі працамі, якія прапануюць вонкавы цікавы і часта свежы, не замулены канкурэнцыйны погляд. Па сутнасці, гэта цікавыя падручнікі па вывучэнні палітычнай гісторыі Беларусі і суседніх краін.

Але вернемся да асноўнай працы французскага беларусіста — «Беларускі рух і Польшча». Копія, якая захоўваецца ў Скарынаўцы, ужо ў тытульніку ўтрымлівае памылку: так, аўтар пазначаны як М. Жабэр (а не А. — Амбруаз). Верагодней за ўсё, копія была зробленая ў парыжскім Інстытуце славянскіх даследаванняў Львом Гарошкам. Бо асноўная франкамоўная беларусіка, як сведчаць шматлікія лісты Л. Гарошкі да Ч. Сіповіча, сабраная ў цэлым менавіта ім.

Гэта не грунтоўная гістарычная праца, але першая гістарычная праца аб Беларусі па-французску. Калі Антуан Мартэль працаваў у філалагічным кірунку, у кірунку гістарычнай філалогіі, Рэнэ Мартэль апісваў Беларусь як публіцыст, то з-пад пяра Амбруаза Жабэра выйшла невялічкая, але насычаная і крытычная праца па гісторыі беларусаў. Гэта не проста кур'ёз для сучасных гісторыкаў, але важны дакумент франкамоўнай беларусікі, дадатковы погляд на нас звонку.

У працы даецца сціслая гісторыя беларусаў як запозненай нацыі. Хоць асноўная ўвага скіроўваецца на беларускі рух за Польшчай 20–30-х гадоў XX стагоддзя, аўтар цікава і незвычайна падае папярэднюю гісторыю.

Ва ўступе Амбруаз Жабэр пазначае прагрэсіўную падзею — уз'яднанне беларускіх земляў у 1939 годзе. Гісторык эмацыйна пазначае, што «беларусы ўвасабляюць адзін з запозненых прыкладаў лінгвістычнага нацыяналізму ў Еўропе». Праз усю працу пазначаецца адсутнасць асобнай дзяржавы ў беларусаў, а таму і адсутнасць патрабавання дзяржаўнасці. Аўтар, такім парадкам, знаходзіць адказ, чаму ж у беларусаў слабая ідэнтычнасць — якраз праз адвечнае суіснаванне з іншымі народамі ў межах супольных дзяржаў. Далей Амбруаз Жабэр падкрэслівае, што не трэба цешыць сябе ілюзіямі: цяперашні БССР унутры СССР мае хіба культурную аўтаномію, у астатнім ён цалкам бязвольны. Адзіны плюс для беларусаў ад СССР даследнік бачыў хіба ва ўз'яднанні нацыі.

Мова стала галоўным крытэрам у паданні лакальнай гісторыі. І французскі гісторык смела пазначае, што беларуская, а ў далёкай гісторыі «рутэнская мова» сягае ў часіны княстваў (Пінска-Тураўскага, Полацкага, Смаленскага і Чарнігаўскага). Менавіта «рутэнская мова» і спачатку «грэчаская вера» перамаглі балцкае паганства. І нават позні хрост па заходні манер балтаў не паслабіў рутэнскай мовы: справаводства, двор, гаспадарка пыніліся на мове беларусаў. Удар па рутэнскай мове нанеслі польская мова і слабыя высілкі саміх рутэнамоўных, якія не прадпрымалі захадаў па рэфармаванні і развіцці мовы. Калі ў XVI стагоддзі польскія пісьменнікі, культурныя дзеячы выпрацоўваюць літаратурны стандарт, пра рутэнскую мовы ніхто нават не турбуецца. Яна застаецца кніжнай, канцылярскай, дыялекты рутэнскай ніяк не прывязваюцца да пэўнага стандарту, а таму сацыяльны поспех маналітнай, распрацаванай, размоўнай польскай мовы забяспечаны.

І тут французскі гісторык ідзе далей і накідваецца з крытыкай на Ф. Скарыну. Хоць і з'яўляецца ён слынным (перша)друкаром, але, на жаль, яго немагчыма ставіць у адзін шэраг з Янам Гусам ці Лютарам, бо Скарына не ажыццявіў вычынаў, роўных тым, што зрабілі Гус і Лютар. Скарына толькі задаволіўся перадрукаваць стараславянскі тэкст, патлумачыць старыя словы, часткова дадаць словы з рутэнскай размоўнай мовы, ну і смела дадаць у тэкст польскія і чэшскія словы. Глабальна ж перакладу на рутэнскую мову не адбылося, адкуль і канчатковая параза рутэнскай мовы ў самым канцы XVI стагоддзя.

Але, як ні дзіўна, на думку французскага гісторыка, менавіта гэты занапад мовы, паланізацыя паспрыяюць канчатковаму адасабленню беларусаў ад усіх: ад украінцаў, ад палякаў. Расійская імперыя атрымае, не зважаючы па прапаганду і лозунг уз'яднання нібыта братоў, насамрэч, чужынскі, іншамоўны, іншаканфесійны і іншадумны народ — беларусаў.

З канца XVI па амаль канец XIX стагоддзя рутэнская мова знікае з публічнай сцэны, захоўваецца простым людам і аднаўляецца ўжо ў розных варыянтах — у беларускім вяртаецца да жыцця з-пад пяра Багушэвіча ў 1891 годзе. Беларускі рух уз'ядноўваецца вакол слаўнай гісторыі, але перадусім вакол мовы, на якой у мінулым размаўляў як просты, так і шляхетны люд, калі прыгадаць прадмову Францішка Багушэвіча.

Беларускі рух, на думку гісторыка, — гэта перадусім рух культурніцкі і моўны, у апошнюю чаргу палітычны. На прыкладзе аднаўленага беларускага руху за Расіяй, потым за Польшчай гісторык даводзіць, што федэралісцкае мінулае беларусаў абумоўлівае іх і ў XX стагоддзі: беларусы рэдка патрабуюць незалежнасці, часцей бачаць сябе ў хаўрусе з кімсьці.

Спецыяліст па Польшчы, Амбруаз Жабэр разглядае беларускі рух у звязцы з польскай дзяржавай, бо якраз у дыктатарскай Польшчы з 1926 года, як падкрэслівае гісторык, беларускі рух зведаў асаблівыя выпрабаванні і прадэманстраваў нечуванае дагэтуль супраціўленне чарговай паланізацыі. Крытычны паланіст пазначае, што Польшча не мяняецца і аднадумна ўжывае рэсурс паланізацыі: зноў і зноў спрабуе асіміляваць беларусаў, перакручвае вынікі перапісаў насельніцтва, наўмысна робіць з беларусаў палякаў, забараняе беларускія рухі, школкі, нават фізічна забівае беларусаў. А магла быць разумнейшай: хітра, у супрацьвагу Саветам, даць рэальную аўтаномію беларусам, украінцам і зрабіць прывабнай Польшчу для савецкіх беларусаў і ўкраінцаў. Бо атрымалася ўсё інакш: крэсовыя беларусы больш сімпатызавалі БССР-СССР, чым Варшаве. У выніку беларускі рух схіліўся да лявіцы, і беларускае пытанне было лёгка выкарыстанае і развязанае СССР.

З асцярогай у канцы 1939 года завяршае сваё эсэ французскі беларусіст, паставіўшы ў канцы працы пытанне. Ці вырашанае цяпер беларускае пытанне ў межах СССР? Пакуль не вядома — працягвае аўтар, — будучыня пакажа нам гэта. Але ўжо вядома, што Польшча прайграла, а СССР удала скарыстаўся вузкалоб'ем суседкі. І так аптымістычна, хоць, варта пазначыць, з асцярогай, завяршае працу Амбруаз Жабэр: «...і беларуская мова трыумфуе цяпер паўсюль: у школах, у прэсе, у радыё»...









# Пяць цікавостак пра зборную Ісландыі

Жанна ГЕМБІЦКАЯ

**Сенсацыйная перамога зборнай Ісландыі над Англіяй у Чэмпіянаце Еўропы з лікам 2:1 спарадзіла небывалую цікавасць да каманды краіны, насельніцтва якой складае ўсяго 331 тысячу чалавек. Пры гэтым 12 тысяч заўзятараў прыехалі на матч Англія—Ісландыя. Прапануем вам пяць цікавых гісторыек пра гэту неверагодную каманду і яе гульцоў.**

1 Ісландыя раней ніколі не гуляла ў фінальных стадыях чэмпіянату Еўропы. Адной з найбольш паспяховых кваліфікацыйных кампаній для краіны быў адборачны цыкл чэмпіянату Еўропы–2004, калі каманда пад кіраўніцтвам Асгейра Сігурвінсана мела шанцы заняць першае ці другое месца. Для гэтага трэба было перамагаць Германію і чакаць асечкі зборнай Шатландыі. Аднак Германія атрымала перамогу над ісландцамі з лікам 3:0 і пазбавіла іх шанцаў на першае месца, а перамога шатландцаў над Літвой пакінула ісландцаў без плэй-оф адбору Еўра–2004.

Аднак 6 верасня 2015 года, згуляўшы нулявую нічыю са зборнай Казахстана, зборная Ісландыі гарантавала сабе першы ў сваёй гісторыі ўдзел у чэмпіянаце Еўропы.

Дарэчы, хатняй арэнай зборнай Ісландыі з'яўляецца стадыён у Рэйк'явіку, які носіць назву «Лаўгардалсвёлур». З 1958 па 1997 год гэта была арэна з адной трыбунай і драўлянымі лавамі. Пасля мадэрнізацыі і будаўніцтва другой трыбуны стадыён стаў змяшчаць 15 000 гледачоў.

І яшчэ, Хеймір Хальгрымсан, памочнік галоўнага трэнера ісландскай зборнай Ларса Лагербека, доўгі час працаваў стаматолагам.

2 У адным з матчаў на полі за зборную Ісландыі гулялі бацька і сын. Гэта быў таварыскі матч з Эстоніяй (Талін, 24 красавіка 1996 года). У другім тайме Эйдур Смары Гудзьёнсен выйшаў на замену замест свайго бацькі Арнара. І гэта было ўпершыню ў гісторыі міжнародных футбольных спаборніцтваў.

3 Рэкардсменам зборнай па колькасці згуляных матчаў з'яўляецца Рунар Крыстынсан, які ў 1987–2004 гадах правёў 104 матчы (3 галы). Таксама ў тройку лідараў уваходзяць Херман Хрэйдарсан і Эйдур Гудзьёнсен. Гудзьёнсен з'яўляецца лепшым бамбардзірам у гісторыі зборнай. Бацька Эйдура Арнар таксама ўваходзіць у дзясятку лепшых па згуляных матчах і забітых мячах.

Дарэчы, толькі ў аднаго ісландскага футбаліста, якіх мы дасюль бачылі на полі, Эйдура Гудзьёнсена, прозвішча заканчвалася на -sen. Ва ўсіх астатніх прозвішча заканчваецца на -son. Ісландцы не маюць прозвішчаў у нашым разуменні. Сын атрымлівае імя бацькі, да якога дадаецца канчатак -son. Літаральна гэта імя па бацьку. Гунарсан азначае сын Гунара.

4 Цяперашні капітан зборнай Ісландыі Аран Гунарсан да 15 гадоў займаўся гандболам, лічыўся ўзыходзячай зоркай гэтага спорту ў сваёй краіне. Аднак затым ён вырашыў сысці ў футбол, патлумачыўшы гэта тым, што гандбол занадта просты і надакучлівы. Дарэчы, гандбол у Ісландыі заўсёды быў вельмі моцным.





Фота www.sport.ua

5 Галкіпер зборнай Ісландыі, Ханес Хадльдаўрсан прафесійным футбалістам стаў салідным узросце.

«Я кідаў мяч у сцяну, ён адскокваў, і я спрабаваў яго злавіць. Так я стаў галкіперам. Я аддаваў практыкаванням гадзіны, тыдні, месяцы і гады. Пазней яно мне спатрэбілася, калі я гуляў у маленькім клубе з Рэйк'явіка, у якога не было грошай на падрыхтоўку брамнікаў», — кажа Хадльдаўрсан.

Ханес кінуў футбол у 14 гадоў пасля траўмы падчас катання на сноўбордзе. Толькі ў 19 гадоў хлопец аднавіў футбольныя трэніроўкі, і за гэты час захапіўся рэжысурай і мантаваннем відэаролікаў. Да 23 гадоў Хадльдаўрсан дарос да вышэйшай лігі.

Але вялікі футбол прыйшоў у жыццё ісландскага галкіпера ў 27 гадоў: тады ён перайшоў у лепшы клуб краіны «КР» і дэбютаваў у зборнай, захапіўшы месца ў варотах каманды Ларса Лагербека. З 2014-га Ханес гуляе толькі за мяжой.

«Калі я жыў у Ісландыі, кожны дзень з 8 да 17 я сядзеў у офісе, а потым ішоў на трэніроўку. Праца рэжысёрам была для мяне асноўнай, таму што прыносіла больш грошай», — распавёў Ханес.

Зараз Хадльдаўрсан жыве ў Нарвегіі. Ён ажыццявіў мару і стаў запатрабаваным прафесіяналам, у яго з'явілася больш вольнага часу, які ён планує выдаткаваць на напісанне сцэнара для фільма жахаў.

«Працадаўцы пайшлі мне насустрач, падаўшы бестэрміновы адпачынак да заканчэння кар'еры. Зараз я магу расслабіцца, таму што раней ездзіў на зборы з ноўтбукам і мантаваў відэа паміж трэніроўкамі. Эйдур Гудзьёнсен, які быў маім суседам па нумары, увесь час мяне троліў з-за гэтага», — дадаў ісландскі галкіпер.

## Не толькі пра каманду

Яшчэ адной зоркай Ісландыі, акрамя футбалістаў, на Еўра–2016 стаў каментатар Гудмундур Бенедыктсан. Пасля перамогі зборнай Ісландыі над камандай Аўстрыі ён настолькі эмацыйна святкаваў поспех, што сарваў голас. Адначасова яго звольнілі з асноўнай працы — ён з'яўляўся памочнікам галоўнага трэнера клуба «Рэйк'явік», і за той час, што Гудмундур быў паглынуты нацыянальнай зборнай, яго ўласная каманда пацярпела пяць паразаў.

Ну і, нарэшце, асаблівую ўвагу звярнула на сябе «крычалка» ісландскіх заўзятараў, якая многім здаецца магічным абрадам вікінгаў.

Матч за выхад у паўфінал чэмпіянату Еўропы Ісландыя згуляе са зборнай Францыі 3 ліпеня. Магчыма, нас чакае чарговая сенсацыя.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 633

Падпісана да друку 01.07.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.